E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 5(10) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА КРАСАВІК 2003 ГОДА ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773

Пазіцыя

## Мець свой погляд

У мінулым нумары рэдакцыя надрукавала шэраг выступленняў, што прагучалі на Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі. У водгуках чытачоў былі прапановы апублікаваць усе даклады па розных аспектах грамадскага, палітычнага і сацыяльнага жыцця. На думку чытачоў, Сход інтэлігенцыі – адна з галоўных падзеяў апошняга часу, паколькі адлюстравала імкненне сфармуляваць шырокую грамадзянскую пазіцыю па пытаннях суверэнітэту, незалежнасці, выйсця з эканамічнага тупіка. Безумоўна, меркаванні Сходу паўплываюць на карэкціроўку праграмаў і тактыкі палітычных партыяў, якія знаходзяцца ў стане нутранога крызісу, адчуваюць падзенне падтрымкі з боку шырокіх слаёў грамадства. Думкі вярхоў апазіцыі часам засмучаюць сваёй разгубленасцю. Дасведчаныя і адукаваныя людзі раптам пачалі адшукваць нацыянальную ідэю, якая магла б даць новыя сілы іх зморанай душы, нібыта усё папярэдняе стагоддзе нацыянальнай ідэі не існавала. Безумоўна, кожны чалавек мусіць сам выпрацаваць адносіны да сітуацыі ў краіне, але не зашкодзіць ведаць, што думаюць іншыя.

**У гэтым нумары пад рубрыкай «Сход» мы падаем зварот Васіля Быкава, выступы Ніла Гілевіча, Уладзіміра Коласа, Вінцука Вячоркі, Аляксея Караля, Андрэя Курэйчыка.**

**Матэрыялы на стар. 3 – 6, 10**

Рэдакцыя Новага Часу шчыра ўдзячная калегам і чытачам за дапамогу ў аднаўленні пацярпелага ад злодзеяў нумару газеты

У нумары






# Стандарт вайны



Вызвольная сіла




Працэдура дэмакратызацыі




Гэты падлетак ужо назаўжды вызвалены ад дэспатычнага рэжыму Садама




Узлёт іракскай эканомікі

Бясспрэчна, Садам Хусэйн - агрэсар, дэспат, душагуб. Бясспрэчна таксама, што жыць людзям пры яго рэжыме надта цяжка. Але ці падстава гэта, каб забіваць простых іракцаў, тым болей дзяцей, абсалютна невінаватых перад USA. Садам жывы, а ўжо каля 600 нявінаватых назаўжды вызвалены звыштрапнай зброяй ад яго дэспатычнага рэжыму. Садама трэба было арыштаваць і судзіць у 1991 годзе, пасля агрэсіі супраць Кувейту. Але тады яму даравалі. Цяпер руйнаванне Ірака пад выглядам пошукаў зброі масавага знішчэння выклікае непавагу да амерыканцаў. Такой зброяй сёння валодаюць шмат краінаў, але амерыкана-брытанскія саюзнікі іх не бамбуюць, не пачынаюць шокавыя аперацыі, прыкладам, супраць Паўночнай Карэі, дзе больш таталітарны рэжым. Не ўсе на свеце трымаюцца думкі, што амерыканцы – найлепшыя людзі на свеце, а іхні лад – узор для чалавецтва, і можна навязваць яго гвалтам. І таму гэтая агрэсія абернецца найперш ростам ваенных бюджэтаў ва ўсіх краінах і новай беднасцю для бедных. Але Госпад нікому не дасць стаць сусветным гегемонам. За вядомую гісторыю такіх жадаючых было шмат.



**Шаноўныя чытачы!**

**Прыносім прабачэнні за затрымку гэтага нумара. У ноч на нядзелю невядомыя злодзеі абрабавалі рэдакцыйную тэхніку. Рэдакцыя страціла падрыхтаваны ў друк нумар, архіў, базу дадзеных і неабходнае камп`ютэрнае абсталяванне. Спадзяемся на вашае разуменне сітуацыі.**

**Рэдакцыя**

## Памятныя даты

**7 красавіка**

**Сусветны дзень здароўя.** Гэты дзень дае добрую падставу пачаць здаровы лад жыцця. Кошт медычных паслугаў і лекаў расце. Сёння хварэць - гэта раскоша, якую могуць дазволіць толькі багатыя.

**8 красавіка**

**Сусветны дзень цыганоў.** Пры тым, што цыганы не маюць сваёй дзяржавы, нават нейкага нацыянальнага ўтварэння, культурнай аўтаноміі, школы, кніжнай справы, яны паважліва ставяцца да роднай мовы, шануюць яе, на ёй зносяцца , і ў гэтых адносінах даюць ўзор многім арганізаваным народам, якім не хапае гонару захаваць галоўнае багацце, створанае іх продкамі.

**18 красавіка**



**Дзень помнікаў і гістарычных месцаў.** У Беларусі шмат цікавых помнікаў архітэктуры, але ў Сусветны спіс культурнай спадчыны пакуль патрапілі толькі Мірскі замак і помнік прыроды (Белавежская пушча). Няўвага, якую дзесяцігоддзямі выказвала ўлада ў адносінах да беларускай культурнай спадчыны мінулага часу, абярнулася вялізнымі стратамі. Нашыя замкі, палацы, былыя сядзібы бальшынёй зруйнаваныя, памятныя мясціны не маюць належнага клопату. Святочны дзень дае падставы ў такіх мясцінах пабываць і аддаць даніну памяці заслужоным асобам.

**26 красавіка**

**Дзень памяці Чарнобыльскай катастрофы.**

**1494**



Нарадзіўся знакаміты французскі пісьменнік Франсуа Рабле. У маладыя гады ён быў манахам францысканскага манастыра, потым стаў доктарам медыцыны, практыкаваў як лекар. Найбольш вядомы дзякуючы свайму бессмяротнаму раману «Гарганцюа і Пантагруэль», імёны герояў якога ўвайшлі ў сусветны культурны спажытак, а сам раман заклаў магутную літаратурную фарсавую традыцыю. Памёр Рабле ў 1553 годзе.

**1883**

Нарадзіўся чэшскі пісьменнік-сатырык Яраслаў Гашак. Да пачатку Першай сусветнай вайны ён быў вядомы на радзіме журналіст. У часе вайны, мабілізаваны ў аўстра-венгерскую армію, патрапіў у расійскі палон, пасля рэвалюцыі ўдзельнічаў у фарміраванні інтэрнацыянальных аддзелаў Чырвонай Арміі. На радзіму вярнуўся ў 1920 годзе і неўзабаве пачаў выдаваць сваю эпапею «Прыгоды бравага салдата Швейка ў часе сусветнай вайны». Раман прынёс яму сусветную славу і перакладзены на мноства моваў. Заўчасная смерць у 1923 годзе пакінула раманпра Швейка незакончаным. З імем Гашака злучана мноства легендаў, півярня, дзе любіў бавіць час пісьменнік - самае прыцягальнае месца для турыстаў, якія прыязджаюць у Прагу. Яраслаў Гашак - самы вядомы чэшскі пісьменнік мінулага стагоддзя.

# Гарнізонная чысціня

## *Хутка на мінскія вуліцы прыдзе новы парадак*

***У сталіцы Беларусі працуюць больш за 3 тысячы кіёскаў дробнага рознічнага гандлю. Гэта 8 тысяч рабочых месцаў. Штомесячна ў бюджэт горада яны даюць 600 тысяч еўра ў выглядзе адзінага падатку на прыбытак.***



Летні прагноз: прыкладна так будзе выглядаць «перасоўванне» латошнікаў напрыканцы чэрвеня

Але неўзабаве гэты сегмент эканомікі пачне худзець, а самі кіёскі і латкі застануцца толькі ва ўспамінах. Наступ на гэты зручны для звычайных людзей від гандлёвага абслугоўвання пачаўся летась адпаведна з рашэннем Мінгарвыканкама.

У выніку першай фазы антыкіёскавай аперацыі з людных месцаў Мінска было знесена 1. 800 пунктаў дробнага гандлю. Ідэйнай падставай паслужыў нібыта шчыры клопат аб добраўпарадкаванні беларускай сталіцы і санітарным стане вуліц. Абвешчаны тады ж, на пачатку 2002 года, чыноўны паход на астатнія крамкі і латкі пачнецца праз якія 2–3 месяцы.

Тры тысячы пунктаў гандлю, да якіх звыкліся сотні тысяч людзей, павінны набыць «цывілізаваны выгляд». Гэта азначае, што прадпрымальнікам, выкінутым з вуліц, будзе прапанавана адкрыць уласныя магазіны ці перасунуцца са сваімі таварамі ў гіпермаркеты ды іншыя гандлёвыя цэнтры. На ўзор еўрапейскіх сталіцаў. Дата скону кіёскаў дакладна акрэслена – 1 ліпеня 2003 года.Так што ў гэты дзень, каб купіць жуйку ці пачак цыгарэт прыдзецца брысці ў нейкі магазін ці маркет, якія працуюць па непазбыйай савецкай сістэме - з 8 да 20.

Начальнік упраўлення прадпрымальніцтва Мінгарвыканкама Аляксандр Каліноўскі паведаміў на прэс-канферэнцыі, што прадпрымальнікі маюць шырокі выбар варыянтаў для ўсталявання новага рабочага месца. Яны могуць перайсці, напрыклад, у гандлёвую каморку пры паркінгах, ім будзе дазволена набыць кватэру пад магазін на першым паверсе жылых дамоў у мікрараёнах, пераводзячы яе ў нежылы фонд. Цяпер у Мінгарвыканкаме стварaецца спецыяльная рабочая група па перасоўванні «аб'ектаў» дробнай розніцы. Зразумела, што перасоўванне пачнецца з закрыцця. А вось куды перасунуцца ўладальнікі кіёскаў і 8 тысяч работнікаў, пакуль не надта бачна. Арэнда ў паркінгах і падобных капітальных пабудовах і дорага каштуе, і прыватны прадпрымальнік пры такіх цэнах хутка абанкруціцца.

Пераабсталяваць пад магазін кватэру таксама не проста. Бо яна і каштуе ў некалькі разоў болей, і яе трэба выкупіць, зрабіць адпаведны рамонт, абсталяваць уваходам. Капітальныя выдаткі будуць такой велічыні, што немагчыма стане іх вярнуць. Пры такіх умовах план шырокага адкрыцця прыватных магазінаў у мікрараёнах мяжуе з фантазіямі.

Разрэкламаваныя гіпермаркеты, дзе можна набыць усё, можна наогул лічыць здаровай хімерай. Добра таму, хто мае аўто, каб выбірацца ў такі маркет, але пакуль што бальшыня мінскага насельніцтва не можа дазволіць сабе такія звычкі. Калі ў Мінгарвыканкаме распрацоўшчыкі такіх планаў можа і звыкліся купляць у гіпермаркеце, то звычайныя людзі задавольваліся тымі латкамі і кіёскамі, што стаялі побач дома і сапраўды прыносілі карысць, дазваляючы зберагчы час.

Зносу кіёскаў у неспрыяльны эканамічны час не было б, калі б у Мінску ды іншых гарадах было выбарнае гарадское кіраванне, але паколькі яно прызначаецца, то робіць тое, што грукае ў галаву. Падабаецца прызначанаму мэру гарнізонная чысціня – вось і адбываюцца зачысткі вуліц. Тая ж вайна з кіёскамі, трэба меркаваць, прыйдзе паступова і ў абласныя гарады, а потым і ў меншыя.

**Віктар ІЛЮКЕВІЧ**



## 450 год Рэфармацыі на Беларусі

Міжнародная канферэнцыя

**«Рэфармацыя і сучаснасць: хрысціянская духоўнасць, тэалогія, культура»**

Выступы багасловаў, гісторыкаў
Хрысціянская харавая музыка XVI стагоддзя

**Канферэнцыя адбудзецца 5 – 6 красавіка.**
Збор удзельнікаў 5 красавіка ля Палаца культуры вэтэранаў (Янкі Купалы, 21) з 9.30 да 10.00

***Запрашаем усіх, хто цікавіцца хрысціянствам, гісторыяй Беларусі, станам сучаснага духоўнага жыцця***

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

РП-1

**АБАНЕМЕНТ** на газету ~~часопіс~~ **63773** (індэкс выдання)

Новы Час (назва выдання)

Колькасць камплектаў

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | x | x | | | | | | |

Каму (прозвішча, ініцыялы)
Куды (адрас)
(паштовы індэкс) (горад, населены пункт)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету ~~часопіс~~ **63773** (індэкс выдання)

Новы Час (назва выдання)

| кошт | падпіскі | 2235 | руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | | руб. | | |

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | x | x | | | | | | |

Кому (прозвішча, ініцыялы)
Куда (адрас)
(почтовый индекс) (горад, населены пункт)

# Давайце раіцца

**Васіль Быкаў**
**народны пісьменнік Беларусі**




Калі гаварыць коратка і канкрэтна, дык варта зазначыць, што перад намі, як заўжды, паўстаюць два праклятых пытаньні: хто вінаваты і што нам рабіць?

Зрэшты, на першае пытаньне адказ быццам бы знойдзены, і праблема, такім чынам, напалову зьнята, засталася другая яе палова. Але ў гэтай другой сабралася столькі складанасьцяў, што яны складаюць болей за палову, – ці ня ўсе самыя праклятыя праблемы засяродзіліся ў драконавым чэраве тае паловы.

Сапраўды, рабіць што?

Што – ня ў сэнсе пустапарожняга дыскутаваньня ці шызафрэнічнай гістэрыкі пустазвонаў. Не ў майстэрскай імітацыі чыннасьці прафэсійных дэмакратаў ці нямоглых на справу нацыяналістых. А ў сэнсе практычнай прагматыкі, якая была б здольная на пэўны рацыянальны вынік. Найперш – вынік у галіне свабоды і незалежнасьці.

І тут узьнікае пытаньне: а ці сумяшчальныя між сабой тыя пастуляты – свабода і незалежнасьць? Прынята лічыць, што так. Толькі свабода, у тым ліку і свабода выбару, можа даць незалежнасьць, а незалежнасьць забясьпечыць свабоду. Але на практыцы мы ўбачылі, што тое – не зусім так, што ў той формуле яўна бракуе рацыянальнага сэнсу. Бо калі б ён там быў, дык быў бы і вынік. А ў нас выніку – нуль.



Дык што ж нам рабіць?

Мяняць тактыку змаганьня? Але тактыка мае межы, і ўся яна, бадай, вычарпаная. Мяняць кіраўніцтва? Але якое на якое? Ці ня здарыцца так, што на месца кепскага старога прыйдзе яшчэ горшае новае? Рэвізаваць нашу старую нацыянальную ідэю, але ў якіх кшталтах? Можа, мяняцца самім (калі мець на ўвазе нашу нацыянальную эліту), але як і куды? Намагацца зьмяніць мэнталітэт электарату? Але тое ці ў нашай сіле? Калі той мэнталітэт не зьмянілі стагодзьдзі паднявольнага існаваньня, ці магчыма тое за дзясятак гадоў тыраніі? Кажуць, што калі нацыя ня склалася за сто год, дык яна ўжо не складзецца ніколі. Ну а калі мы самі ў гэтым сэнсе ня надта ўдалыя, тады якое маральнае права мы маем патрабаваць зьменаў ад іншых? Хоць бы і ад тае субстанцыі, якую мы глыбакадумна называем электаратам?

**Скрозь пытаньні і праблемы. А як вядома з Гегеля, найбольшая праблема ўзьнікае зусім не з канфлікту правага зь няправым, а менавіта з канфлікту правага з правым.**

Ужо зразумела, што наша шаноўнае грамадзтва няздольнае разьвязаць тыя заклятыя праблемы, іх прыйдзецца разьвязваць ягонай эліце. Правай і левай. Нацыянальнай і дэмакратычнай. Радыкальнай і лібэральнай.

З таго вынікае найважнейшая перадумова – аб'яднаньне.

Досьвед паказаў, што мы занадта слабыя, каб дзейнічаць паасобку, каб доўга вагацца – выбіраць і перабіраць, з кожнага поваду круціць носам. Тым болей самаеднічаць, цягнуць да халоднай вайны ва ўласным стане.

Ня можам таго дазволіць сабе, бо інакш нас хутка ня стане. Ні правых, ні левых. Ні пэсымістых, ні аптымістых. Ні праведнікаў, ні вінаватых.

Ужо відавочна, што сьвет ідзе зусім не туды, куды яго скіроўваюць нашыя ўладары. Хоць бы Садам ці Лукашэнка. Ці Пуцін. Сьвет павярнуў у напрамку Буша. Але і ў тым накірунку месца для нас сумніўнае. Бо мы іншыя – занадта падлеглыя і талерантныя, з надта прыкметным бракам нацыянальнага эгаізму.

А там – панаваньне вялікай і магутнай сілы, якая, на жаль, не заўсёды ёсьць праўда і справядлівасьць. Хоць у шмат якіх выпадках менавіта так. Але сьвет зьменлівы, гісторыя парадаксальная. Нават ужо Бог у ёй не гарант. Што там можа наша зьняверaная, здушаная эліта і яе клясычны спакутаваны «цёмны крот», цяпер эфемерна званы электаратам.

Горш за ўсё тое, што час бясплённа мінае, а нашыя праблемы – ні зь месца. Дык што ж нам рабіць? Давайце раіцца. Я вельмі жадаю ў тым посьпеху.

**Прага, сакавік, 2003 год**

# З верай у сябе, у свае сілы

**Ніл Гілевіч**
Народны паэт Беларусі

Я спадзяюся, што ў нас хопіць мужнасці на вялікую, хай сабе і балючую шчырасць, і хопіць мудрасці, каб у размове не забываць пра галоўнае, што нас тут сабрала. Мы абавязаны засведчыць, што беларуская інтэлігенцыя ёсць, што яна не пала духам і не мае намеру падаць, што беларуская інтэлігенцыя – гэта тая інтэлектуальная, духоўная і маральная сіла, з якой абавяскова лічыцца ўлады, бо перш за ўсё яна вызначае і аблічча нацыі, і накірункі духоўнага развіцця грамадства.

Мы павінны засведчыць, што наша вера з намі і яна нас не пакіне, бо «Не дай божа сэрцам знікнуць і душой апасці...» Гэта радкі інтэлігента, якому было не лягчэй, чым нам сёння. Ён тры гады сядзеў у Мінскім астрозе – за тое, што не змог змірыцца, каб ягоны народ быў нявольнікам на сваёй жа зямлі, на сваёй Радзіме. Патрывожу цень яшчэ аднаго з найвялікшых інтэлігентаў, якому належыць думка, што іменна дзякуючы веры ў сябе, у свае духоўныя сілы, не згінуў, выжыў і ацалеў беларускі народ. Ці выпадкова, што ў страшны, змрочны перыяд нашай гісторыі гэта сказаў чалавек, які паходзіў з некалі магутнага ліцвіскага роду Дастаеўскіх, быў крывінкай Беларусі?

Ці не пасланы гэта намёкц нам, сённяшнім сынам і дочкам Беларусі, – маўляў: ведайце і помніце: вам ёсць на чым стаяць і ёсць чым кіравацца – у вас ёсць вера!

Мільёны працоўных Беларусі маюць патрэбу ў дапамозе з боку інтэлігенцыі. Пра што гаворка? Пра тое, ўто інтэлігенцыя абавязана паспрыяць росту нацыянальна-дзяржаўнага самаўсведамлення народа, вызваленню яго душы ад грузу шкодных сацыяльных ілюзій і палітычных забабонаў. Думаю, недаравальна грэх для інтэлігента, калі ён пражыве жыццё і нікому не дапаможа зразумець галоўнае, а іменна – што чалавек павінен пачувацца гаспадаром зямлі, на якой нарадзіўся і якую пакіне ў спадчыну дзецям. Тым больш мы павінны рабіць гэтую работу, што ёсць, на жаль, іншыя сілы і іншая воля-воля сэрцаў злых і нядобрых, і гэтыя сілы робяць работу процілеглую – апрацоўваюць душы людскія не для іх акрыленасці і ўзвышэння, а для таго, каб загнаць у іх страх, паралізаваць іх атрутуй роспачы і бязвер'я. Мы – сведкі таго, калі і самыя важныя праблемы эканамічнага, палітычнага і духоўнага жыцця Беларусі публічна трактуюцца на ўзроўні прафанацыі і блюзнерства, – на ўзроўні, ад якога інтэлігентным людзям робіцца моташна. Часам – моташна, а часам – і страшна. Страшна ад думкі: што ж гэта ў нас адбываецца? Дзе і ў які час жывем? Ці сапраўды ў цэнтры Эўропы і ў пачатку XXI стагоддзя? Наступ на свабоду думкі і слова такі – што далей ужо няма куды. Свяшчэннае права інтэлігенцыі-тварыць, помнячы толькі пра Бога і слухаючы толькі Бога, – грубая хамская сіла адбірая, топча, ды яшчэ і цынічна здзекуецца пры гэтым. Іншы раз здаецца, што гэтыя сілы ўжо рыхтуюцца нацыянальна-патрыятычную інтэлігенцыю ставіць да сцяны – на ліквідацыю. Як гэта было ў 1937, калі за адзін дзень у Беларусі пусцілі ў расход 22-х пісьменнікаў. Толькі пісьменнікаў! А яшчэ і многіх выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў, дзеячаў асветы і культуры, – усяго 46 чалавек. За адзін заход! А ў гэты час беларускія дзеткі развучвалі ў школе новую песню – з прыпевам: «Жить стало лучше, жить стало веселей!» Я быў адным з тых дзяцей, і што мы спявалі – добра помню. Між іншым, песеньку склалі таксама інтэлігенты, паэт і кампазітар, выканалі свой інтэлігенцкі абавязак перад гераічным часам, перад Радзімай і правадыром. Некаторыя з нашых сучасных творцаў таксама спяшаюцца выканаць. Спяшаюцца-як бы і чуць не чулі ні пра сталіншчыну, ні пра яжоўшчыну, як бы і сэрцы ні разу не забалелі па тых, чые косці ў Курапатах.



Выкажу яшчэ дзве думкі па тэме сходу. Першая: што ёсць тое ў нас саміх, што вельмі шкодзіць беларускай справе? Раз'яднанасць сіл. Нескансалідаванасць пазіцый і дзеянняў у імя таго, што сёння ёсць галоўнай гістарычнай задачай беларускага грамадства. Гэта – дрэнна. Раз'яднанымі, распыленымі сіламі мы мэты не дасягнем, уратаваць свабоду і дэмакратыю, уратаваць дзяржаўную незалежнасць Беларусі не зможам. Сярод прычын раз'яднанасці, на маё бачанне, – і недахоп пачуцця адказнасці перад тварат небяспеці, і празмерная амбіцыйнасць некаторых калегаў, і пэўная палітычная няспеласць, негатоўнасць зразумець, што ж павінна ляжаць у аснове ўсёй праграмы будаўніцтва незалежнай нацыянальнай дзяржавы. Сёй-той думае, што гэтае будаўніцтва можна весці ў абмін магістральнай нацыянальнай ідэі, якая ахапіла б свядомасць усяго грамадства рэспублікі. Ігнаруецца гісторыя Эўропы, дзе за апошнія два стагоддзі ўсе славянскія дзяржавы, і не толькі славянскія, узніклі і ўмацаваліся на грунце ажыццяўлення нацыянальна-патрыятычнай палітыкі, на грунце нацыянальных ідэалаў. У абсягу гэтай палітыкі – і нацыянальная эканоміка, а не толькі культура. У нас у асяроддзі інтэлігентэлігенцыі мае, на жаль, месца небяспечная недаацэнка гэтага аспекту разумення галоўнага беларускага пытання.

Ёсць рэчы і зусім прыкрыя: некаторыя інтэлігенты-дэмакраты дазваляюць сабе іранізаваць і глуміцца з абаронцаў беларускай мовы, беларускай школы і кнігі, маўляў, што вы падымаеце крык аб мове? Бярыце прыклад з Аўстрыі, якая абыходзіцца нямецкай мовай і – добра жыве! Сумна, горка і прыкра чытаць такое ў неафіцыйных выданнях. Адказнасць жа млжна толькі адно: людзі крычаць тады, калі баліць, шаноўныя, ад болю крычаць! Ну, калі гэта смешна – смейцеся! Калі мову 10-мільённага народа бяруць за горла, ды яшчэ страшней, чым бралі калісьці, то сапраўдныя інтэлігенты, г. зн. людзі высокай культуры, павінны хоць бы спачуваць, калі заступіцца і абараніць не хочацца. Ёсць жа, у рэшце рэшт, такое паняцце, як элементарная чалавечая прыстойнасць.

Другое, што не магу закрануць, – гэта пытанне аб моладзі. На маё разуменне, сёння задача задач-не аддаць ворагам беларушчыны школьную і студэнцкую моладзь, засцерагчы яе ад татальнай хлусні і ачмурэння. Маладыя людзі, як правіла, наіўныя і даверлівыя, і лёгка клююць на прыманку сацыяльнай і палітычнай дэмагогіі, на папулісцкія лозунгі. Іх самым брутальным чынам падкупляюць падачкамі. Мы абавязаны своечасова дапамагчы ім зразумець усю складанасць грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіны, дапамагчы з'арыетавацца і зрабіць годны выбар. Што для гэтага перш за ўсё трэба? Гаварыць маладым людзям праўду– і пра мінулае, і пра сучаснае. Перш за ўсё – гэта!

Іншы раз, у хвіліну асаблівага стану, я ўсклікваю: «Які шчаслівы наш беларускі народ! Якая выдатная ў яго інтэлігенцыя! Колькішляхетных, эрудыраваных, таленавітых людзей у краіне! Ва ўсіх галінах і сферах грамадскага жыцця!» ... А тады – як усё адно раптам прачынаюся і ўсклікваю зусім іншае: «Божа, які няшчасны народ! Падумаць толькі: кіраўніцтва дзяржавы змагаецца са сваёй нацыянальнай інтэлігенцыяй! Змагаецца з тым, кім павінна ганарыцца, каму павінна радавацца і быць шчасліва ўдзячным!» Няўжо паны кіраўнікі не разумеюць, што весці такое змаганне – справа і неразумная, і марная, і ганебная, няўжо не ведаюць, што імёны тых, хто падобнае рабіў, былі ў рэшце рэшт выкінуты на сметнік гісторыі! З усенароднай пагардай.

# Беларуская інтэлігенцыя:
## раз'яднанасць і кансалідацыя

УСЕБЕЛАРУСКІ СХОД ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

**Уладзімір Колас**
**кіраўнік НДГЛ імя Якуба Коласа**

*«Мысли, имеющие большое значение, всегда просты. Моя мысль – в том, что ежели люди порочные объединены и составляют силу, то людям честным остается сделать то же самое. Ведь как просто...»*

*Лев Толстой.*

Гэтае выказванне даволі дакладна характэрызуе праблему нашай сённяшняй раз'яднанасці. Тым не менш, пры ўсёй павазе да класіка, нельга не заўважыць, што такое вызначэнне характэрнае хутчэй для грамадстваў, дзе існуюць абмежаванні волі грамадзянаў, дзе вярхоўная ўлада манапалізуе права абмеркавання і прыняцця лёсавызначальных для краіны і народа рашэнняў.

Ёсць іншая мадэль узаемадзеяння, якая паходзіць з інашай сістэмы грамадскіх адносін. Яго можа характарызаваць наступнае выказванне: «Калі сабраць разам пяць інжынераў і пакінуць іх на нейкі час, то яны абавязкова вынайдуць нешта, што прынясе прыбытак ім самім і карысць усім іншым».

Таксама проста. Але ці лёгка? Ці магчыма ў нас: вольна збірацца? Вольна нешта рабіць? Ці заўседы запатрабаваныя ў нас творчая ініцыятыва і яе вынікі?

Нашым інжынерам калі і ўдаецца сабрацца і нешта прыдумаць, то іхнія каштоўныя прапановы ў большасці выпадкаў разбіваюцца аб некампетэнтнасць начальства, абсурднасць эканамічных адносін і шмат чаго іншага.

Што тычыцца інжынераў чалавечых душ, прадстаўнікоў гуманітарнай сферы, то ім нават сабрацца разам магчыма далёка не заўсёды, а за нейкія несанкцыяваныя вынаходніцтвы і ўвогуле можна трапіць куды-небудзь на Ахрэсціна або папросту знікнуць.

Такім чынам большасць нашых інтэлектуальных здабыткаў выкарыстоўваецца дзе заўгодна і прыносіць карысць каму заўгодна, толькі не нам. А ад гэтага, у сваю чаргу, напрамую залежыць якасць нашага жыцця, якое, як вядома, даецца толькі адзін раз.

Што ж перашкаджае нам ажыццявіць неабходную кансалідацыю ўсіх стваральных сіл у адной асобна ўзятай краіне, у якой нам было наканавана нарадзіцца і жыць?

Безумоўна, адна з галоўных праблем – брак дзяржаўнасці. Дакладней, брак стандартна сфармуляванага ўсведамлення аб ёй, якое традыцыйна існуе ў свядомасці большасці народаў свету. З'ява гэтая, дарэчы, зусім не адназначная, і мае не толькі адмоўныя бакі. Хіба касмапалітызм і талерантнасць беларусаў поліэтнічнага Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага – не праўобраз светапогляда сённяшняй аб'яднанай Еўропы?

Аднак цяпер, у сучаснай сітуацыі адкрытасць і талерантнасць беларусаў, адсутнасць у нашым нацыянальным характары вызначанай ксенафобіі і схільнасці да нацыянальнай самаізаляцыі, могуць прынесці і шмат карыснага. Галоўнае – спыніць ланцуг бясконцых памылак, галоўнае – абраць правільны шлях...

Працэс фармавання нацыянальнай свядомасці адбываўся для некалькіх пакаленняў народаў СССР, у тым ліку беларусаў, пад лезунгам стварэння новай гістарычнай супольнасці – савецкага народа. Напрыканцы існавання СССР разнастайныя парткіраўнікі любілі адзначаць як адно з найгалоўных здзяйсненняў тое, што працэс стварэння гэтай новай гістарычнай супольнасці практычна завершаны. Нельга сказаць, што яны цалкам мелі рацыю, аднак нельга не прызнаць і эфектыўнасці гэтага працэсу, не ўлічваць ягонага ўплыву на свядомасць нашага грамадства, у тым ліку інтэлігенцыі.

Згодна з парадай класіка, дзеля надання значнасці думцы, я хачу максімальна яе спрасціць і прапаную новы прынцып падзелу сучаснага беларускага грамадства на беларусаў, савецкіх беларусаў і проста «савецкіх людзей».

Сярод кожнай з гэтых плыняў можна знайсці ўсе традыцыйныя катэгорыі нашага грамадства: прадстаўнікоў наменклатуры і рабочых, бюджэтнікаў і вайскоўцаў, пісьменнікаў і мастакоў, бізнэсоўцаў і калгаснікаў, але пазіцыя кожнага з нас вельмі часта будзе залежыць не столькі ад сацыяльнай ці прафесійнай прыналежнасці, колькі ад таго, да якой з названых этнічных катэгорый мы належым.

Менавіта гэтым тлумачацца шматлікія парадоксы і супярэчнасці, якія ўласцівыя перакананням і ўчынкам не толькі так званых «простых людзей», але і прадстаўнікоў інтэлектуальных эліт. Менавіта гэтым тлумачацца неверагодныя вынікі апытанняў, калі адны і тыя ж людзі адначасова падтрымліваюць узаеманепрымальныя рэчы, напрыклад, захаванне СССР, ці, у сучаснай трактоўцы, стварэнне «Саюза дзяржаў» і ў той жа час існаванне Беларсі як незалежнай дзяржавы.



**За што мы можам змагацца ўсе разам, незалежна ад нашых поглядаў і прыхільнасцяў?**

Плынь беларусаў вызначаецца проста і ясна: карыстанне беларускай мовай, шанаванне дэмакратычных традыцый і бачанне Беларусі як незалежнай еўрапейскай краіны.

Што тычыцца савецкіх людзей, то гэтая плынь, у сваю чаргу, складаецца з дз вюх антаганістычных катэгорый: артадоксаў і дысідэнтаў. З артадоксамі таксама ўсе проста. Іх вызначае заалагічная нянавісць да ўсяго, што не адпавядае стандартам грамадства сталінскай эпохі. Што тычыцца дысідэнтаў, то гэта - прыхільнікі дэмакратычных поглядаў. Іх нямала сярод сяброў нашых апазіцыйных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Яны выхаваныя на традыцыях адлігі 60-х гадоў мінулага стагоддзя, на песнях Акуджавы, Галіча і Высоцкага, на аповесцях Салжаніцына. Усе гэта непарыўна звязана ў свядомасці гэтых людзей з адзінай прасторай ад Брэста да Курыл, з адзінай мовай і адным цэнтрам у Маскве. Прыхільнасць да рынкавых рэформаў і дэмакратычных каштоўнасцяў Захаду і славесная падтрымка барацьбы за незалежнасць і нацыянальнае адраджэнне пэўных народаў можа спалучацца ў іх з нечакана агрэсіўным стаўленнем да спробаў практычнай рэалізацыі гэтых мэтаў і нават вітаннем таталітарных рэпрэсій у дачыненні да «сепаратыстаў». У кансалідуючых мэтах, каб не правакаваць новых крыўдаў і разладаў, я не буду называць прозвішчы нашых паважаных дэмакратычных журналістаў і грамадскіх дзеячаў, якія дагэтуль хваравіта рэагуюць як на спробы сваіх суайчыннікаў паўнавартасна карыстацца беларускай мовай, так і на імкненне да адбудовы сапраўды незалежнай беларускай дзяржавы. Адзначым толькі, што гэтая з'ява існуе, і будзем думаць, што з гэтым рабіць.

Як сведчаць вынікі шматлікіх апытанняў, найбольшай па колькасці з'яўляецца плынь савецкіх беларусаў. Тут становішча таксама стракатае і даволі заблытанае.

Савецкія беларусы карыстаюцца рускай мовай, але называюць у якасці роднай беларускую і не супраць ёй карыстацца, калі тое самае будзе рабіць большасць. У чаканні гэтага моманту яны абмяжоўваюцца выкананнем пры застоллях народных песняў кшталту, надаючы гэтаму значэнне нейкага сакральнага па вызначэння нацыянальнай тоеснасці. На спробы карыстацца беларускай мовай у іншых сітуацыях і на імкненне да адбудовы незалежнай дзяржавы яны рэагуюць не так агрэсіўна адмоўна, як савецкія людзі, а хутчэй нейтральна, асцярожна і напалохана. Яшчэ адна дыялектычная супеярэчнасць, якая дасталася ў спадчыну ад савецкіх часоў – што савецкія беларусы, аддаючы належнае заходнім жыццёвым стандартам, у большасці сваёй непрыхільна ставяцца да рынкавай сістэмы і капіталізму ўвогуле, схільныя лепш цярпець мізэрныя заробкі пры няякаснай, але гарантаванай сацыяльнай абароне, чым ісці на невядомыя і таму страшныя рынкавыя рэформы.

Вядома, такі падзел – даволі ўмоўны. У кожнага з нас у той ці іншай ступені прысутнічаюць рысы і проста беларусаў, і беларусаў савецкіх, і проста савецкіх людзей. Але наяўнасць у нашай свядомасці, ці нават падсвядомасці пэўных ірацыянальных і супярэчлівых перакананняў, аб'ектыўная рэчаіснасць. Ігнараванне гэтай савецкай спадчыны не пакідае ніякіх шансаў таму, хто імкнецца змяніць сітуацыю. Так адбылося са спробамі тагачасных нацыянальных дэмакратычных лідэраў правесці беларусізацыю адразу пасля распаду СССР. Распачатыя раптоўна, без уліку ўсіх гэтых складаных і супярэчных акалічнасцяў, захады ператварылі нацыянальнае Адраджэнне ў чарговую утопію, якая была насцярожана ўспрынятая савецкімі беларусамі і адмоўна – савецкімі дысідэнтамі – дэмакратамі, – плынямі, якія ў суме дагэтуль складаюць пераважную большасць электарата. У выніку мы атрымалі спыненне працэсаў дэмакратызацыі і рынкавых рэформ на доўгія гады.

Што рабіць, каб не паўтараць такіх сумных памылак?

Трэба імкнуцца разумець адзін аднаго, трэба шукаць тое, што нас яднае, а не размяжоўвае. Імкненне лабавымі захадамі навязаць адно аднаму свае перакананні, узаемныя крыўды і папрокі, нежаданне ці няздольнасць да кампрамісу толькі пагаршаюць сітуацыю.

Яднаць усіх нас можа адно – Беларусь. Таму, калі мы жадаем ёй дабра, а гэта – галоўная ўмова для шчасця нашага і наступных пакаленняў, мы павінны вызначыць галоўнае, што нам трэба зрабіць усім разам, і кожнаму ўнесці пасільны ўклад у агульную справу.

У якасці такой галоўнай справы я бачу вяртанне Беларусі на дэмакратычны шлях, стварэння ўмоваў, калі мы зможам рабіць свядомы і асэнсаваны выбар развіцця нашай краіны.

Гэта найперш – вяршэнства закона, справядлівыя выбары і аб'ектыўныя і прафесійныя сродкі масавай інфармацыі.

# Нацыянальная ідэя
## як фактар дэмакратычных пераўтварэнняў

УСЕБЕЛАРУСКІ СХОД ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

**Аляксей КАРОЛЬ**
**палітолаг**

Для аб'яднання, акрамя жадання, неабходна нейкая агульная аснова. Неабходна аб'ядноўчая ідэя, якая можа стаць асновай новай канцэпцыі, новай мадэлі развіцця Беларусі, адпавядаючай інтарэсам большасці насельніцтва. Але каб стаць такой асновай, сама ідэя павінна быць ўспрынята і падзяляцца большасцю грамадства, дакладней, на пачатку той адной яго чвэрцю, якая, згодна з навуковымі даследаваннямі, схільная генерыраваць канцэпцыі развіцця і да якой затым далучаюцца астатнія тры чвэрці.

Якая ж ідэя ва ўмовах сучаснай Беларусі можа стаць аб'ядналнай?

Гісторыі вядомы тры аб'ядналўныя ідэі: рэлігійная, класавая і нацыянальная. Класавая абярнулася таталітарызмам. Рэлігійная для Беларусі выключаецца часам, існаваннем мноства канфесій, верацярпімасцю і талерантнасцю насельніцтва. Застаецца нацыянальная.

Ці ж здатная менавіта нацыянальная ідэя стаць ідэяй, кансалідуючай эліту і народ? Ці здольная яна стаць канцэпцыяй новага этапу барацьбы за перамены ў Беларусі?

Часткова адказ хаваецца ў прычынах, што абумовілі няўдачу дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі.

**Прычына зыходная.** Працэс дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі пачаўся пад уплывам звонку, што ў гістарычнай традыцыі краіны: усе больш–менш важныя сацыяльна-палітычныя зрухі пачыналіся тут пад уплывам знешніх імпульсаў. І тут ніколі не сфарміравалася ў неабходных параметрах самастойная нацыянальная палітычная сіла, здольная пачаць рух і дамагчыся вызначаных мэтаў.

**Прычына другая.** Дэнацыяналізацыя, максімальна ўзмоцненая за гады савецкай улады. Беларусь аказалася адносна дрэнна падрыхтаваная да атрымання незалежнасці ў жніўні 1991 года. Адсутнічала моцная аб'ядноўчая ідэя, дзякуючы якой адрадзіліся ў якасці незалежных і дэмакратычных краіны Балтыі ды іншыя.

**Прычына трэцяя.** Вельмі вузкі і слабы, некансалідаваны слой беларускай эліты, беларускай нават не па паходжанні, і нават не па мове, а па арыентацыі на нацыянальныя інтарэсы. Як вядома, палітычная ідэнтыфікацыя можа быць не толькі праз этнічсткі спосаб, але і праз этацысцкі – прававая уласцівасць грамадзянства.

Слабасць эліты праявілася ў слабасці нацыянальнай інтэлігенцыі – генератара ідэй і творцы канцэпцый, мадэлей развіцця. Збегам гістарычных абставін лепшыя прадстаўнікі нацыі трапілялі ці то ў польскую, ці то ў расійскую інтэлігенцыю. Рэпрэсіі 1920–30-х гадоў вынішчылі пад корань тую моцную купку беларускіх інтэлектуалаў, якая сфарміравалася на мяжы 19 і 20 стагоддзяў.

**Прычына чацвёртая.** Моцны і маналітны слой савецка-партыйнай наменклатуры – сурагат палітычнай эліты ў Беларусі, які сапраўды быў неад'емнай часткай агульнасаюзнай. Квазіэліта без аніякіх гістарычных каранёў і традыцый, маралі і прафесійнага кодекса гонару. Яе асноўны інстынкт – інстынкт самазахавання.

**Прычына пятая.** Атамізаванае несалідарнае грамадства пры больш высокім, чым у іншых рэгіёнах Савецкага Саюза, узроўні жыцця.

**Прычына шостая.** Адносна невялікі, стракаты і слаба кансалідаваны слой дэмакратычнай апазіцыі. Гэта постсавецкая эліта, якая выйшла з таталітарнай сістэмы,не маючы за сабой дэмакратычнай традыцыі. Фарміравалася яна з актывістаў першай хвалі (галоўным чынам інтэлігенцыі) і прадстаўнікоў былой наменклатуры (галоўным чынам ніжэйшага і сярэдняга звенняў).

Пасля першых прэзідэнцкіх выбараў і асабліва пасля лістападаўскага 1996 года антыканстуцыйнага перавароту палітычная эліта краіны ўсё больш выразна расколваецца на дзве групы: на дэмакратычную апазіцыю і ўладную бюракратыю. Формай арганізацыі дэмакратычнай апазіцыі становяцца выключна партыі, незалежныя прафсаюзы, рознага роду недзяржаўныя грамадскія аб'яднанні. Формай арганізацыі бюракратыі – знакамітая вертыкаль Лукашэнкі. Тэрміны «дэмакратычная эліта» і «дэмакратычная апазіцыя» пераўтвараюцца ў сінонімы.



Нацыянальная ідэя адыгрывала ў гісторыі неадназначную ролю. Прыкладаў пераўтварэння нацыянальна-вызвольнага руху ў аўтарытарныя і дыктатарскія рэжымы ў мінулым і сучасным мы ведаем дастаткова. Усё залежыць ад канкрэтнага зместа нацыянальнай ідэі, яе адаптацыі да канкрэтнага часу і канкрэтным умовам.

Каб стаць тэарэтычнай асновай канцэпцыі развіцця Беларусі, стратэгіі аб'яднання і тактыкі дзеянняў дэмакратычнай апазіцыі яна павінна атрымаць сучасны змест, быць арганічна спалучанай с дэмакратычнымі каштоўнасцямі.

Сёння галоўная пагроза суверэнітэту зыходзіць ад уласнай улады. У канчатковым выніку існаванне беларускай дзяржаўнасці вызначаецца здольнасцю і воляй яе дэмакратычных сілаў рэалізаваць дэмакратычны выбар. У іншым выпадку Захад пакідае Беларусь па-за межамі еўрапейскай цывілізацыі, аддае яе ў сферу ўплыву Расіі.

Сутнасць беларускай ідэі як ідэі аб'яднальнай і мабілізацыйнай, можна сфармуляваць наступным чынам.

Беларусь – дзяржава з даўнімі, што сягаюць у глыб стагоддзяў, традыцыямі. І разам з тым Беларусь – маладая дзяржава, што абавязвае яе не паўтараць памылак, пазбягаць састарэлых формаў і канструкцый. Беларусы – нацыя з глыбокімі гістарычнымі каранямі. І разам з тым – маладая нацыя, закліканая адрадзіць страчаную дзяржаўнасць на аснове дэмакратычных прынцыпаў. Не ў ізаляцыі, а ў садружнасці з дзяржавамі еўрапейскай супольнасці. Не ў канфрантацыі з Расіяй, але і не ў якасці сатэліта, і тым больш не ў якасці Паўночна-Заходняга краю або губерні ў складзе Расійскай Федэрацыі. Усе нацыі, што пражываюць у Беларусі, поруч з тытульнай ёсць народам Беларусі з роўнымі правамі, магчымасцямі і абавязкамі. Усе выхадцы з Беларусі, якія даўно ці нядаўна пакінулі Радзіму – народ Беларусі. Бацькаўшчына заўжды з імі і для іх.

Сучасная фаза фарміравання беларускай дзяржаўнасці, акрамя ўнутраных цяжкасцей, прыйшлася і на час, калі разгортваюцца працэсы глабалізацыі, што як бы ставіць пад пытанне саму ідэю яе існавання. Ці есць сэнс ствараць тое, што быццам бы аджыло свой век? Пытанне, якое дастаткова часта гучыць з вуснаў у тым ліку і дэмакратаў.

**Працэсы глабалізацыі нясуць у сабе як перспектывы развіцця, так і сур'зныя пагрозы.** Аднак не толькі не адмяняюць, але нават і падвышаюць ролю нацыянальнай дзяржавы, як і тэндэнцыі да іх фарміраванне там, дзе да таго яны былі немагчымыя. Менавіта ўпэўненая ў сабе, дасягнуўшая сталасці дзяржава, з'яўляецца месцам фарміравання палітыкі на трох узроўнях – у міжнародных арганізацыях (саюзах і блоках), рэгіянальным (напрыклад, Еўропа ці Лацінская Амерыка) і нарэшце на ўзроўні ўласна нацыянальнай дзяржавы. І менавіта яна павінна даць адказы на выклікі звонку – ад іншых урадаў, транснацыянальных карпарацый і г.д. Такім чынам баронячы інтарэсы сваіх грамадзян, рост іх дабрабыту.

**Уведзеная ў сучасны кантэкст, беларуская нацыянальная ідэя дазваляе як зняць супярэчнасці ў асяродку дэмакратычнай эліты, так і стаць прывабнай для большасці насельніцтва.** Здымаюцца супярэчнасці паміж ліберальнай і сацыял-дэмакратычнай канцэпцыямі рэформаў, паміж рускамоўнай і беларускамоўнай яго часткамі, рознымі культурамі. Прававы, дзяржаўны прынцып самаідэнтыфікацыі не супрацьстаіць этнічнаму, але прыводзіць іх да кансенсусу. І робіцца зразумелым для кожнага.

Амаль што дзевяць год існавання гэтага рэжыму і асабліва выбары палатныя, прэзідэнцкія і мясцовыя паказалі, што ўладная бюракратыя імкнецца законсерваваць сітуацыю, стрымаць усімі сродкамі рост дэмакратычных сілаў, павялічыць раскол у іх шэрагах. **Наменклатура прадэманстравала поўную падтрымку рэжыму.** Спадзяванні на ўнутраныны пратэст у яе асяродку не апраўдаліся. Адміністрацыйны рэсурс, як выявілася падчас кампаній, быў значна большым, чым можна было меркаваць па перадвыбарнай сітуацыі. Узровень жа расчаравання, незадавальнення рэжымам – значна меншым, чым патрабавалася для перарастання пасіўнага пратэсту (у кабінах для галасавання) у актыўны – на вуліцах і плошчах, што толькі і магло спыніць буйнамаштабныя фальсіфікацыі, нейтралізаваць прапагандысцкі накат, паралізаваць бюракратычную машыну.

**Толькі аб'яднанне можа данамагчы дэмакратычнай апазіцыі стаць рэальнай сілай, здольнай рэальна ўплываць на сітуацыю ў краіне.** Толькі аб'яднанне здольна даць апазіцыі давер шырокіх слаёў грамадскасці. І толькі рэальная кааліцыйная дзейнасць можа забяспечыць павагу да апазіцыі як з боку Захаду, так і Усходу. Каля 30 адсоткаў насельніцтва лічаць, што шматпартыйная сістэма краіне патрэбна. Ім супрацьстаіць 17 адсоткаў, якія выступаюць за адну моцную партыю. Больш чым за 50 адсоткаў апытаных яшчэ не вызначыліся ў сваіх адносінах да партый. І гэта ёсць рэзерв іх росту.

Безумоўна, што найгоршай перашкодай для колькаснага і якаснага росту партый застаецца застарэлы страх насельніцтва падвергнуцца палітычнаму пераследу, адсутнасць стымулаў да ўступлення ў партыі. Пры тых умовах, у якіх даводзіцца працаваць партыям у Беларусі, здзіўлення варты сам факт іх існавання. Калі ж, урэшце, яны здолеюць аб'яднацца ў дзеяздольны палітычны саюз, то гэта будзе азначаць дасягненне найпершай перадумовы аб'яднання ўсіх дэмакратычных сілаў, агульнага поспеху ў дэмакратычных пераўтварэннях у Беларусі.

> ***Менавіта аб`яднання найбольш за ўсё баіцца рэжым, тактыка якога зараз адзначана больш хітрымі і асэнсаванымі захадамі на раскол апазіцыі і ўтварэнне так званай «новай апазіцыі», кантралюемай і кіруемай***

# Вясновы плён

Алесь ВАРЫКІШ

## Калядная зорка

Вецер вые, стогнуць боры,
Завіруха скрозь мяце,
Пэўна, сюды ў гэту пору
Нікога не занясе.
Але раптам на дарозе
Цень зьявіўся, быццам з хмары,
Ці то здань, а, можа, злодзей,
Што бяжыць ад Боскай кары.

Што за прывід нечакана
Аб'явіўся ў нашым краі?
Бо такой парой у лесе
Ходзяць толькі воўч'і зграі.
Бачны конь, убраньне, зброя...
Набліжаецца пастава...
Божа, гэта ж пан Мяцельскі,
Чый маёнтак у Дубравах!

Год мінуў, як ён загінуў
На палях вайны з Масквою.
Нават гетман сам прыехаў
Абраніць сьлязу з удавою.
І тут раптам – аб'явіўся...
Чыёй моцай аб'яўленьне?
Хіба толькі цуд адбыўся
Ў ноч на божа нараджэньне.

Не загінуў ён у бойцы,-
У палон варожы трапіў.
Голад церпячы і зьдзекі,
Бачыў толькі неба ў краты.
Але не губляў надзеі,
Што нявечнае выгнаньне,
Што ў адзін цудоўны момант
Бог спашле выратаваньне.

Прыйшоў шанец нечакана:
У адзін сцюдзёны вечар,
Падмануўшы стральцоў п'яных,
Здолеў вырвацца і зьбегчы.
На радзіму прабіраўся
Па лясах, балотах топкіх,
Пакуль, змучаны, ня выйшаў
На разьведку войск літоўскіх.

Абадраны, весь прамёрзшы
Быў дастаўлены ў Воршу,
Дзе герою чэсьць аддалі
Як магнату, ды ня горшу.
Пакуль наш герой адходзіў
Ад пакутаў і хваробы,
Прынясла зіма марозы
І вялізныя сугробы.

Аклямаўшыся, Мяцельскі
Сьпешна рушыў у дарогу,
Каб зь сям'ёй яшчэ да сьвятаў
За вяртаньне славіць Бога.
Да сяброў не завяртаў,
На пастоях не спыняўся.
Менск, Валожын ўраз мінаў,-
Да сям'і сваёй сьпяшаўся.

Ўрэшце - родныя мясьціны,
Да маёнтка вёрстаў з дваццаць.
Па дарозе карчма - мінуў,
Рашыў шляхціч не спыняцца.
Жыд з карчмы крычаў: «Паночак,
Не ляці ў пургу, спыніся!
Бо такім надвор'ем ноччу
Ўраз замёрзьнеш, азірніся!»
«Не! – сказаў мяцельскі жыду,-
Да сям'і даехаць мушу,
Разам скласьці каб падзяку,
Што Бог уратаваў душу».

Але сьцюжа моцна круціць,
Ўсё мацней дзьме ў сваю дудку.
І ўжо конь штораз марудзіць,
Не бяжыць наперад хутка.
Конь упаў, і пан Мяцельскі,
Зрэшты выбіўшыся зь сілаў,
Сьнег расьпіхваючы целам,
Йдзе насустрач сваёй мілай.

Але блізка ўжо фальварак
Майго сябры, пана Кміты,
Ён мне вінен дужа грошай,
Дапаможа,- будзем квіты!
Чуваць сьмех, вясельле, танцы,
Відаць дом, дрэвы ў парку.
Наш Мяцельскі сабраў сілы,
Да маёнтку рушыў шпарка.

«Хто там грукае ў ночы?» –
Кміта ў гневе ўстрапянуўся.
«Я, Мяцельскі,– госьць рагоча.-
На радзіму я вярнуўся!»
Пазнаў Кміта свайго сябру,
Але радасьці на твары
Не было, пры адной ўзгадцы
Пра даўгі стаў ён як хмара.

«Не Мяцельскі ты, а злодзей!–
Крыкнуў Кміта і дабавіў:–
Слугі, шаблю мне ды болей,
Пачастуйце яго куляй!»
Стрэл, другі... Свіснулі кулі
Каля скроняў нечакана.
«Не хапала, каб забілі!»-
Даўся шляхціч ад паркана.

«Бог табе судзьдзя», – падумаў,
І пакочыў наугад,
Каб, пакуль яшчэ ёсьць сілы,
Дабрысьці да родных хат.
Але сілы пакідалі,
Раны сталі браць сваё.
«Ўсё, канец, ня будзе сьвята,
Знойдзе тут мяне зьвяр'ё»...

Раптам быццам голас нечы
Унутры прагаварыў:
«Я цябе збаўляў у сечы,
Ад стральцоў абараніў.
Дык няўжо цяпер надарма
Ты сканаеш тут у полі?
Аб'явіўся я на сьвеце,
Каб жыццё вы мелі, волю!»

Ўстрапянуўся пан Мяцельскі,
Здэцца, бура не гудзе...
А над лесам сьвеціць зорка,
Быццам за сабой вядзе.
Як пастух у Бэтлееме,
Йшоў шляхціцюк за гэтай зорай.
Ведаў: Бог усемагутны
Выведзе ў часіне горкай.
Колькі часу йшоў - ня скажа...
Занімацца стаў сьвітанак...
Сьцяна лесу адступае...
Бачыць: восьь яго фальварак...

Дзяніс КУСТАЎ

## Мая Беларусь

Мая Беларусь – гэта кветка свабоды,
Мая Беларусь, быццам подых вясны.
Красуйся ж мая Беларусь назаўсёды,
І з моваю роднай у шчасці жыві!

Мая Беларусь – гэта песня народа,
Спрадвечная песня уласных трывог.
Жыла, будзе жыць, беларуская мова,
Пакуль існуе шлях да сутнасці – Бог.

Пакуль зелянеюць лясы іпалеткі,
Цякуць нашы рэкі, квітнее Зямля –
Датуль і не знікне мая цуда-кветка,
Мая беларуская мова і я!

Сяргей ПАНІЗНІК

## Вунь хорамы Храма...

Абсыпаўся снег на драўляным шкілеце...
Спынілі валежыны: плетнік, заслон.
У нас буралом.
Не прабрацца па следзе.
У нас касталом.
Заблудзіўся закон.
«Вы ў прорве, - сказаў бы Тарас на Парнасе.
– Куды ж, беларусе, ты сёння глядзіш?»
Цянёты стаяць на дзяржаўным пасе,
таму так «дарэчы» палае Нясвіж.
Вунь хорамы Храма... Іду да бажніцы.
А мне перавяслы сухога галля
звягочуць на вуха: «Гарэцкі ў бальніцы...
На «хіміі» холад...
Сядзі ля камля».
Праўру я ці не азярод сукаваты?
У пашчу-ашчэрыну скокну як віж.
А будзе пралом, -
абламаюцца краты,
ўзнясу на далонь
крыжаносны
Нясвіж!

Фелікс ШКІРМАНКОЎ

## Рэдактару «ЛІМ'а» сп. ШНІПУ

Я атрымаў чарговы «ЛІМ»,
Перачытаў і засмуціўся.
Я не знайшоў, на жаль, у ім
Цудоўны водар, што бруіўся
Заўсёды, быццам
Дух святы...

А я яго любіў такім,
Калі ён вольна, годна крочыў,
Калі быў компасам маім,
А сёння бачу – ў багну
збочыў.

Павер з глыбынкі чытачу,
Не русафобу – беларусу:
Я бачыць «ЛІМ» адно хачу
Свабодным у думках, без прымусу.
Каб кожнай літарай сваёй
Ён у людзях абуджаў сумленне,
Каб надышло да ўсіх хутчэй
Сапраўднай годнасці
імгненне.

Прабач, але змаўчаць не змог.
Зняважыць «ЛІМ» няма намеру.
Хто правы з нас – рассудзіць Бог
І кожнаму сваю адмерыць
меру.





Так выглядае сёння вёска Пырашава на Уздзеншчыне. Некалі тут стаяла шляхецкая сядзіба, дзе нарадзіўся ў 1789 годзе самы знакаміты журналіст Расійскай імперыі - Тадэвуш Булгарын (больш вядомы пад расійскай калькай з яго імя як Фадзей Булгарын). БацькаТадэвуша, удзельнік паўстання Касцюшкі, у сібірскай ссыльцы захварэў і рана памёр. Тадэвуш з польскімі легіёнамі пабываў у Іспаніі, стаў кавалерам ордэна Ганаровага легіёна, быў адным з аўтараў папулярнага віленскага выдання «Брукаваныя навіны», а пасля закрыцця газеты уладамі выправіўся ў Пецярбург, які, дзякуючы таленту і энергіі, заваяваў. Яго раманы пераводзіліся на еўрапейскія мовы, яго газеты мелі самы вялікі тыраж. Аднак ні ў Пырашава, ні ўва Уздзе няма аніякай пазнакі пра свайго знакамітага земляка.

# Адозва

## Грамадскага Нацыянальнага Камітэта святкавання 750-х угодкаў каранацыі Міндоўга на караля нашай старажытнай дзяржавы



Сёлета прыпадае знакамітая дата – 750-годдзе каранацыі Міндоўга, вялікага князя Навградскага, на караля. У XIII стагоддзі пра гэтага мужнага ваяра гаварылі ў замках галіцка-валынскіх, мазавецкіх, менскіх, полацкіх, пскоўскіх і ноўгарадскіх князёў, крыжацкіх магістраў, у ірландскіх кляштарах ды ў рэзідэнцыях рыжскіх біскупаў і рымскіх першасвятароў. Імя Міндоўга часта сустракаецца ў летапісах ды хроніках XIII – XVI стагоддзяў.

Працяглы час асоба гэтага князя і ягоны чын былі вядомыя толькі некаторым літаратуразнаўцам ды гісторыкам, якія мелі Міндоўга за чужынца-заваёўніка, што нібыта захапіў уладу ў Наваградскім княстве. Да ўвагі не прымалася летапіснае сведчанне пад 1235 годам пра Міндоўга, ваяводу Навградскага князя Ізяслава. Даследнікі гісторыі нашай дзяржавы не задумваліся, чаму ў Навагрудку недалёка ад велічнага замку ўзвышаецца гара, якую здаўна называюць «Магілай Міндоўга». Знакаміты гісторык А.Г. Кіркор пісаў, што «гэты курганны насып сведчыць пра любоў і пашану» наваградцаў да Міндоўга. Паважалі гэтага князя і пінчане ды годна яго ўшанавалі. Яшчэ зусім нядаўна на ўскраіне Пінска, у прадмесці Лешч, побач з славутым Ляшчынскім манастыром, узвышаўся называны «Магілай Міндоўга» курган, які цяпер можна ўбачыць толькі на малюнку Напалеона Орды ды на старых фотаздымках.

Можна ўпэўнена сцвярджаць, што Міндоўг заслужыў велічныя помнікі нейкай надзвычайнай справай. То магла быць пераможная бітва войска Міндоўга з Батыевай ардой, пра што згадваецца ў некаторых летапісах. Менавіта тады Міндоўгава ратнае ўмельства, якое не раз выкарыстоўвалі полацкія, менскія і наваградскія князі, паслужыла і дзеля абароны нашых земляў ад Батыевай арды. І калі шмат якія гарады на ўсход і на поўдзень ад Прыпяці былі зрабаваныя і спапялёныя, нашыя Гомля, Тураў, Навградак, Пінск, Берасце засталіся квітнець. Нашыя землі не спазналі мангольскага іга.

Ваярскае ўмельства Міндоўга годна ацанілі наваградскія феадалы і ў 1246 годзе запрасілі яго на княжанне. На Навградскім княскім пасадзе Міндоўг праявіў сябе абачлівым палітыкам. Тады, у сярэдзіне XIII стагоддзя, Навградскаму княству сталі пагражаць галіцка-валынскія князі, якія схаўрусаваліся з татара-мангольскімі ханамі. А на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, у Ніжнім Панямонні і ў Падзвінні, набіраў сілу Тэўтонскі ордэн. У такіх умовах наваградскія феадалы прынялі адзіна правільнае рашэнне: далучыць сваю дзяржаву да антыардынскай кааліцыі еўрапейскіх краінаў. Выкананне такіх адказных дыпламатычнай і палітычнай задачаў было даручана Міндоўгу. Пра станоўчы вынік гэтай місіі яскрава сведчыць була папы Інакенція IV ад 17 ліпеня 1251 года, якою рымскі першасвятар прыняў Міндоўга за «сына святой Рымскай Царквы», а ягоную дзяржаву «на ўласнасць святога Пятра». Папа Інакенці IV у сваёй буле тытулаваў Міндоўга каралём, а ягоную дзяржаву каралеўствам – «Regnum». І на пачатку ліпеня 1253 года ў Навградку біскуп Кульмскі Гейндрых урачыста каранаваў вялікага князя Міндоўга на караля.

У XIX стагоддзі чыны Міндоўга апявалі паэты Адам Міцкевіч, Юльюш Славацкі, які паводле сваёй драмы напісаў лібрэта оперы Генрыка Ярэцкага «Міндове», Ян Чачот. Напрыканцы XX стагоддзя гарадзенскі кампазітар А.Бандарэнка ў садружнасці з паэтэсай Вольгай Іпатавай стварыў оперу «Князь Навградскі». Дзесяць гадоў таму ў Навградку каля гары Міндоўга ўсталявалі мемарыяльную дошку ў гонар славутага князя і караля.

Сёлета з нагоды вялікага юбілею адбудуцца навуковыя канферэнцыі, фэсты, выставы, з'явяцца новыя творы літаратуры і мастацтва, фільмы і спектаклі, помнікі, якія засведчаць пачатак новай плыні даследавання нашай гісторыі, ушаноўвання імя Міндоўга, вялікага князя і караля, заснавальніка нашай старажытнай «Новгородъские державы, над Немном лежачие», як падае летапіс.

Менавіта нам, дарагія суайчыннікі, выпадае надзённая, актуальная справа: годна ўшанаваць памяць нашых продкаў – ваяроў і будаўнікоў, аратых і рамеснікаў, плён чыёй працы мужна і самаахвяна бараніў ваяр, вялікі князь і кароль Міндоўг.

Дык з Божай дапамогай – за працу, каб мы былі вартыя нашых славутых продкаў!

# Жарсці

Канстанцін Тарасаў

Пачынальнік беларуска-літоўскай дзяржавы князь Міндоўг быў надзвычайны дзяржаўны дзеяч, але сышоў ён з жыцця падобна юнаку, які рынуўся ў лютую бітву з супернікам з-за кахання.

Можна пашкадаваць пра гэта, але кожны распараджаецца сваім лёсам сам.

Трагедыя, у якой два князі сутыкнуліся з-за жанчыны, нагэтулькі ўразіла ў свой час летапісца, што ён адзначыў яе не двума радкамі, які пазначаў буйныя сечы і катастрофы, а запісаў увесь сюжэт для памяці нашчадкаў. Дзякуючы яго здзіўлення, мы ведаем шмат гістарычных удзельнікаў тых падзеяў. Гэта, зразумела, князь Міндоўг, аб'яднальнік розных княстваў у моцнае Вялікае княства Літоўскае пад эгідай Навградка, і ягоны сын князь Войшалк, які больш вядомы як першы ігумен Лаўрышаўскага манастыра на Нёмане. Гэта князь Даўмонт, у хрысціянстве Цімафей. Яшчэ ва ўдзельніках пазначаны наваградскі ваявода Астап – сын разанскага выгнанніка князя-братазабойцы Канстанціна Акаяннага. І яшчэ пляменнік Міндоўга, сын ягонай сястры, князь Трайнат, якому таксама варта было мець прыдомак Акаянны...

Тая даўняя любоўная драма і сёння здзіўляе сваёй фатальнасцю, бо парадзіла чараду змоваў, забойстваў, міжусобную вайну і змену дынастыяў. Ракавыя жарсці ўцягнулі ў крывавы вір мноства людзей на абшары не толькі Беларусі, але і далёка па-за яе межамі – ад Пскова да Галіча. Відаць, непрагляднасць лёсу і яго бязлітасныя ўдары больш за ўсё іншае займалі пачуцці летапісца, калі ён выкладаў наваградскія падзеі 1262 – 1263 гадоў.

## Пралог

Усё мае пачатак. Пачаткам гэтай гісторыі стала запрашэнне Навагрдкам князя Міндоўга ў баявыя князі. Гэта здарылася ў 1245 годзе, і, зразумела, ніхто не мог прадбачыць, што адбудзецца амаль праз два дзесяцігоддзі. Князь меў сталы век, быў вядомы ваяр і войскаводзец, удзельнік знакамітай бітвы з тэўтонскімі крыжакамі пад Драгічыным, дзе крыжакі былі ўшчэнт разбітыя, ваенных паходаў літвы і наваградцаў на мазураў і палякаў.

І вось гэты адораны, рашучы, дзейны і жорсткі чалавек пачынае будаваць новую дзяржаву, можна сказаць, абсалютна новую, бо яднае пад сваёй уладай у дзяржаўную цэласнасць розныя этнічныя рэгіёны, збірае вакол Навагрдка літоўскія і беларускія землі. З'яўленне моцнага і актыўнага дзяржаўнага ўтварэння выклікала супраціў з боку князя Данілы Галіцкага, які арганізаваў супраць Міндоўга кааліцыю з валынскіх князёў, яцвягаў, татараў, жмудзінаў і лівонскіх крыжакоў. Вайна палала некалькі гадоў, але ўрэшце Міндоўг праз добрую дыпламатыю, хітрасць і подкуп гэтую кааліцыю здолеў разбурыць і перамог.

Неаднойчы давялося яму ратавацца і ратаваць сваю сям'ю. З першага шлюбу на цвярской князёўне меў ён дачку і сына Войшалка. Дзеля замірэння з князем Галіцкім ён мусіў выдаць дачку за сына Данілы, а Войшалка пакінуць у яго закладнікам. У Паланецкім манастыры, дзе трымалі Вошалка, сын Міндоўга прыняў праваслаўе, пастрыгся, а па вяртанні на радзіму заснаваў манастыр на Нёмане (недалёка ад цяперашніх Шчорсаў), які дастаяў да 1915 года, калі быў зруйнаваны нямецкім гарматным агнём.

## Першы каталік

У барацьбе за цэнтралізацыю ўлады Вітаўт забіў Відымунта – князя Дайновы (цяпер гэта Гродзенская вобласць), а ягоную жонку ўзяў жонкай сябе. Яна нарадзіла яму двух сыноў – Руклю і Рэпіка. Разам з гэтай жанчынай Міндоўг хрысціўся ў каталіцтва, яна прыняла імя Марта, разам яны хрысцілі сыноў: Рукля атрымаў імя Генрык, Рэпіка назвалі Андрэем, хутчэй за ўсё у гонар хроснага бацькі, якім выступіў лівонскі магістр Андрэй Стырланд. Крыжакі, магістр, тысячы мясцовых людзей глядзелі, як ордэнскі святар Хрысціян крапаў на княжную сям'ю святой вадой, надзяваў на іх крыжыкі і маліўся пра божы клопат да іхняй сям'і і ўлады.

З блаславення рымскага папы Ордэн зрабіў для Міндоўга і Марты залатыя каралеўскія кароны. Лівонскія мечаносцы прывезлі іх у Навградак, і рыжскі біскуп Генрых усклаў на галовы новатытулаваных караля і каралевы гэтыя атрыбуты ўлады, а потым Міндоўг атрымаў каралеўскі меч, пячатку і афіцыйна прызнаны герб сваёй дзяржавы – вершнік з узнятым мечам. Было гэта ў 1253 годзе.

Але праз шэсць гадоў Міндоўг рве сваю залежнасць ад Ордэна, скідвае карону, выганяе з Навградка нямецкіх манахаў і вяртаецца ў язычніцтва, падтрымаўшы паўстанне прусаў. Каля возера Дурбе крыжакі церпяць ад яго войскаў моцную паразу.

Помсцячы палякам, якія дапамагалі крыжакам у іх паходах на яцвягаў, князь ідзе паходам на Мазоўшу, перамагае ейнага князя Земавіта, паліць Варшаву і Плоцк, прыводзіць шмат палону. Гэта адбываецца летам 1262 года. А неўзабаве памірае яго жонка, і яснае да таго моманту жыццё разбураецца. Раптоўны скон Марты наноў пакідае Міндоўга ўдаўцом, а малых яшчэ Рэпіка і Руклю - сіротамі. На пахаванні нядаўняй наваградскай каралевы Марты прыехала ейная сястра, якая была жонкай нальшанскага князя Даўмонта. І вось у Навградскім замку, пасля пахавання, завязваецца сюжэт трагедыі. Нібыта сам Рок прыбыў туды, каб пазначыць сваіх абраннікаў.

## Жарсці князя Міндоўга

Па звестках тагачасных храністаў, нальшанскую княгіню звалі Агна. Ёй было гадоў дваццаць, не нашмат старэйшы за яе быў і муж Агны князь Даўмонт. Пабачыўшы маладую прыгожую сваячку, Міндоўг закахаўся, і на хаўтурах абвясціў, што пакідае Агну сваёй жонкай. Падставай такога рашэння ён назваў нібыта запавет нябожчыцы Марты, якая ў апошнюю хвіліну жыцця пажадала, каб ён зрабіў гэтак дзеля дзяцей, якім патрэбна надзейная апека. Праверыць словы Марты немагчыма, сведкаў апошняга слова няма, аспрэчыць заяву старога наваградскага валадара няма каму. І пачынаецца драма – 20-гадовая жанчына, у якой ёсць муж, 65-гадовы ўдавец глядзяць адзін аднаму ў вочы. Цяпер – ён ейны муж і гаспадар, яна – яго жонка. Але яна і жонка жывога нальшанскага валадара Даўмонта. З такога шлюбу, разумее Агна, павінна вынікаць вялікая бяда. Міндоўг пашле войска забіць князя Даўмонта, а ягоныя землі далучыць да Навградка, як тое было з Дайновай. Звычаі ў той час былі жорсткія, а слова Міндоўга было непарушным. І што



# літвінскіх князёў

рабіць маладой княгіні ў такіх абставінах? Яна можа прыняць такі лёс ці не прыняць яго, гэта значыць паспрабаваць забіць старога князя і загінуць пад нажамі ягоных служак, ці, не забіваючы князя, забіць сябе. Ці проста пагадзіцца з пераменай лёсу. Пытанне, чаму Агна не зрабіла гераічны ўчынак і не засталася на старонках гісторыі як забойца свавольнага князя – пытанне рытарычнае. Чаму бальшыня вязняў сталінскіх канцлагераў прымала сваю смерць, не спрабуючы паўстаць і забіць хоць бы аднаго ахоўніка? Чаму так не рабілі палонныя ў гітлераўскіх лагерах смерці? Надзея на лепшае, на цуд выжывання звязвае бальшыні людзей волю. Няшмат людзей вырашаюць адпомсціць і загінуць без усялякай санкцыі з боку ўлады ці нейкіх пабочных арганізатараў. Вояроў на поле смяротнай бітвы вядзе загад. Агне такі загад ніхто аддаць не мог, і яна цярпела свой шлюбны палон, як бальшыня трывае бязрадаснае нуднае жыццё, спадзеючыся на раптоўную ўдачу.

## Жарсці князя Даўмонта

Наршанская зямля – гэта паўночны захад сённяшняй Беларусі з гарадамі Крэва, Ашмяны, Смаргонь. У дружыне Даўмонта – 300 вояроў. Адпомсціць за сваю ганьбу магутнаму Міндоўгу гэтакай сілы мала. І князь Даўмонт у сваёй крэўскай драўлянай крэпасці рыпіць зубамі ад уласнага бяссілля. Яго паходжанне і род такія ж, як у Міндоўга. У яго той жа старажытны герб – сокал у атацы. У яго няма права зміріцца, ён абавязаны пайсці на бой з крыўдзіцелем. Але дзе і як? І Даўмонт пачынае ладаваць змову, запрашаючы ў хаўруснікі жмудскага князя Трайната, які жадаў заняць месца роднага дзядзькі на наваградскім стале, і ўрадніка Міндоўга – разанца Астапа Канстанцінавіча. Ваявода Астап мусіў назваць месца, дзе з Міндоўгам будзе невялікая ахова, Трайнат сваімі жмудзінамі дапамагае нальшанскай дружыне гэтую ахову пасекчы, а Даўмонт асабіста забівае Міндоўга.

Скарыстаўшы абвешчаны вялікім князем ваенны паход на Бранскае княства, змоўшчыкі вядуць сваіх вояроў нібыта на прызначанае для агульнага збору войска месца, але па дарозе, дзякуючы падказцы Астапа, нападаюць на Міндоўга ў пушчы, куды ён на сваю летнюю сядзібу выбраўся разам з сынамі і былой жонкай Даўмонта. Дня сваёй помсты Даўмонт чакаў год. У марах ён дзесяткі раз бачыў сваю сустрэчу са старым Міндоўгам, бачыў кроў свайго крыўдзіцеля на сваім баявым тапары і жах у ягоных вачах. І вось гэты час надышоў. Даўмонт і яго людзі, чакаючы світанку, затоіліся ў лесе, блізка да княскай сядзібы.

## Помста

Блакітная чароўная поўня асвятляла страху той хаты, дзе снілі свае перадсмяротныя сны воўк і ягоныя ваўчаняты. Каля вогнішчаў на лузе пазяхала ахова. Вартавыя па чарзе абыходзілі луг, бераг, двор і вярталіся грэцца. Гэтай вонкавай аховы было чалавек дваццаць. Усім ім заставалася жыць некалькі гадзінаў. Даўмонтавы людзі нерухома ляжалі ў кустоў, чакаючы золку. Сам князь прыхіліўся да сасны і драмаў. Пачуццё блізкай ужо помсты саграввала яго. Год ён цярпеў ганьбу і кпіны. Ён сцярпеў сорам дзеля гэтай ночы – ночы адплаты. Цяпер чарга князю Міндоўгу зведаць, што такое жах. А жахліва яму стане не ад меча і не ад сваёй смерці – наўрад ці ён баіцца сваёй смерці, ён і так лішняе пажыў. Стане яму страшна, калі ягоныя ваўчаняты атрымаюць па апяранай страле. А ўжо тады і сам ляжа паміж імі. Міндоўг і Міндоўгавічы.

Дарма стары воўк напаў на яго і адняў пару. Нельга нападаць на рарэга, думаў Даўмонт. Воўк палюе на зямлі, сокал узнімаецца ў неба. Міндоўг – воўк, а я – рарэг, думаў Даўмонт. На сцягу ягонага бацькі быў сокал-рарэг, а сцяг перайшоў да яго ад дзеда, і дзед дзеда быў рарэг. Іхны род – род сокалаў; яны цярплівыя, яны мужныя, яны бязлітасныя. На досвітку ён, Даўмонт, стане для Міндоўга такім рарэгам. Год давялося чакаць гэтага палявання. Такога палявання, як гэтае, яшчэ не было на Літве. Праз вякі будуць пераказваць старыя сваім унукам, як рарэг Даўмонт забіў ваўка з імём Міндоўг, як чакаў у восеньскім халодным лесе першы прамень сонца, каб усе маглі пабачыць ягоную помсту. Ніхто не можа сказаць: «Вялікі князь Міндоўг сканаў на сваім ложку, акружаны дзецьмі!» Не, усе будуць казаць: «Князь Даўмонт пасек Міндоўга ў капусту!» Калі хтонебудзь спытае: «Куды знік род Міндоўга, вялікага князя, былога караля з трыма сынамі?» – кожны нальшанец, кожны літовец, кожны наваградзец адкажа: «Яго вынішчыў князь Даўмонт!» І было гэта верасnёўскім ранкам у баі на беразе Нёмана.

А калі спытаюць: «А дзе ягоная жонка, забраная гвалтам для сябе і сваіх сыноў Міндоўгам?» Кожны чалавек у Нальшчы і на Літве адкажа: «Даўмонт яе адпусціў. Ён не мог вярнуць у свой дом жанчыну, якая год даглядала ваўчанят, не перасіліла гідлівасці да старога ваўка, не знайшла ў сабе мужнасці атруціць іх усіх разам, задушыць уначы воўчымі шкурамі. Даўмонт даў ёй воз, яна паехала на сваю радзіму ў Дайнову сядзець цёткаю пры малых дзецях яцвяжскіх сваякоў». А калі хто спытае: «Чаму ён не забіў такую жонку?» – кожны нальшанец адкажа: «Наш князь не забівае слабых, наш князь не помсціць жанчыне!»

Даўмонт трымаў перад вачыма гэтыя прыемныя вобразы, пакуль не пачало развідняцца на ўсходзе неба, і не пачалі выяўляцца з начнога змроку ясныя абрысы коней на выпасе, аховы ля агню, дваровай агароджы, берагі Нёмана, лес за ім, дзе гэтак жа тоіліся зараз жмудзіны. Тады ён махнуў кметам. Праз імгненне загулі ў палёце дзесяткі стрэл , і ўся ахова, што сядзела пры вогнішчах і хадзіла па старажавых сцяжынах, была зваленая без адзінага ўскрыку. Толькі спутаныя коні спуджана кідаліся па лузе, баючыся забітых, але на двары ніхто не ўсхапіўся.

Даўмонт ускочыў і пабег да двара, а побач бег Віцень, а за імі бегла сотня, перастройваючыся ў баявы серп. Вось так проста падступае смерць.

## Апошні бой

Міндоўг, Агна і дзеці прачнуліся ад поклічу баявога рога і конскага тупату, які чуўся з глыбіні лесу на другім беразе Нёмана і шалёных крыкаў за агароджай – «Нальша! Сокал! Наперад! Бі!». Каля брамы Міндоўгавы і Даўмонтавы кметы ва ўпор расстрэльвалі адзін аднаго. Скуголілі пабітыя суліцамі ваўкарэзы. Параненыя вояры курчыліся на зямлі, некалькі ўжо хрыпелі крывавай пенай.

Нальшанскі клін праламіў абарону і запаланяў двор. «Мне не вырвацца! – сказаў Міндоўг дзецям. – Даруйце!» Ён павярнуўся і пайшоў насустрач Даўмонту. Вялікі князь лютымі ўдарамі прымусіў Даўмонта ступіць пару крокаў назад. Раптам крэўскі князь з драпежнай радасцю засмяяўся. «Азірніся, воўк! – крыкнуў ён, апускаючы тапор, – Дзе твае ваўчаняты?» Ён зноў адступіў на некалькі крокаў, каб князь не прыняў яго параду за хітрасць. Міндоўг азірнуўся і ўбачыў, як падымаюць на дзідах Руклю. Сын яшчэ быў жывы і клікаў «Тата! Татка!» Міндоўг кінуўся да сына, знёс галаву аднаму з забойцаў, адсек руку другому, але тут яго спасціг першы ўдар Даўмонта. Сякера нальшанскага князя рассекла яму ключыцу, і Міндоўг выпусціў меч. Сіла пакідала яго, Даўмонтаў тапор адцінаў яму ногі, прабіваў кальчугу, набліжаўся да твару. Князь упаў, і пакуль не памёр, адчуваў, што Даўмонт сячэ яго на кавалкі.

Агна, закаложаная звярынай лютасцю, што панавала на двары, бязлітасным забойствам, крывёю, рыкамі кметаў, стаяла ля стайні. Цяжкі ўдар дзіды прыбіў яе да сцяны. Яна ўбачыла дрэўка, што выходзіла з яе грудзей, вояра, які гэтае дрэўка трымаў. Яна пазнала кмета з дружыны Даўмонта, год назад ён скакаў побач яе ў Наваградак. Ён стаяў перад ёю без шлема, у вачах палала лютая нянавісць. «Ты здрадзіла!» – чула яна ягоны голас. «Здрадзіла!», «Здрадзіла!», «Здрадзіла!» – паўтараў ён і біў яе нажом....

Праз гадзіну забітых пазносілі ў хату, пакрылі саломай, абклалі хату галлём і паднеслі жарынку. Стаяла бабіна лета, дзень быў ясны, цёплы, і высока ўзнімаўся ў блакітнае неба чорны развітальны слуп дыму...

## Наступствы

Таго ж дня Даўмонт стаяў пасярэдзіне наваградскага замка. Год назад на гэтым двары Міндоўг насмеліўся паклікаць сваю смерць. Яна яго знайшла.

Пляменнік забітага князь Трайнат сеў на ягонае месца. Праз год верныя Міндоўгу канюшыя, падкупленыя Войшэлкам, зарэзалі Трайната нажамі, калі ён парыўся ў лазні.

Войшалк, змушаны крывавымі абставінамі, надзеў кальчугу, прывёў пінскія палкі і вярнуў бацькоўскі сталец. Ваявода Астап быў схоплены пагоняй, і Войшалк пасек разанца, як тады казалі, «у капусту». Хутка наваградскія палкі вырушылі помсціць Нальшы. Даўмонт разам з дружынай уцёк у Пскоў, дзе яго прынялі баявым князем пры ўмове хрышчэння ў праваслаўе. Ён хрысціўся, прыняў імя Цімафей, і яго ажанілі на князёўне Марыі, унучцы Аляксандра Неўскага. Яго век скончыўся ў 1299 годзе.

Войшалк валадарыў тры гады. З прынёманскага кастрышча прывёз ён попел бацькі і братоў і паблізу замку насыпаў курган для вечнай памяці. Бяда князя Міндоўга, што ягоны сын аказаўся не надта здатны, каб трымаць уладу і працягваць бацькоўскую справу. Наогул, як паказалі далейшыя справы, Войшалк не разумеў адказнасць улады, не мог асэнсаваць сваю ролю ў будаўніцтве дзяржавы і аказаўся бескарысным у гэтым працэсе. Імкненні некаторых даследчыкаў і літаратараў убачыць у вобразе Войшэлка князя-стваральніка ВКЛ не маюць падставаў. Яму было добра ў келлі, у якую ён і вярнуўся, перадаўшы княжацкую ўладу ў 1267 годзе мужу сваёй сястры Шварну Данілавічу, з чужой княжацкай галіны, з якой варагаваў ягоны бацька . Можна трактаваць гэта як слабую волю, абыякавасць, а можна як несвядомую здраду сваёй радзіме, бо наступствы гэтага былі цяжкія, і краіна патрапіла ў паласу войнаў. Паказальным стаў лёс самога Войшалка. Старэйшы брат Шварна князь Леў пакрыўдзіўся, што наваградская ўлада дасталася не яму, і засек Войшалка мечам, калі абодва высвятлялі адносіны за чарай віна.

Загас род Міндоўга, а дзяржава, ім пачатая, прастаяла стагоддзі.



## Прысвечаная Дню Незалежнасці

У гонар юбілею абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі суполка мастакоў «Пагоня» наладзіла традыцыйную выставу. Але пабачыць работы мастакоў здолее няшмат людзей. Залю для юбілейнай экспазіцыі дала Управа БНФ. Гэтае памяшканне публіка не ведае. Раней выставы ладзіліся ў залях Палаца мастацтва і збіралі мноства аматараў жывапісу. Гэтым годам Палац нагэтулькі «заняты», што раней чэрвеня сакавіцкую выставу экспанаваць не здольны. Некалькі чорна-белых здымкаў з гэтай выставы, зразумела, не перадаюць вартасці жывапісных работ. Цікаўныя могуць пабачыць экспазіцыю па адрасе: Мінск, вул. Варвашэні, 8.


Алесь Марачкін. Маці Божая Курапацкая і ўсіх іншых нявінна расстраляных


Алесь Шатэрнік. Грамніцы


Алесь Цыркуноў. Віленскія светачы Беларушчыны


Генадзь Драздоў. Заручыны


Юры Піскун. Івонка Сурвіла

# Культура і дзяржава




**Андрэй КУРЭЙЧЫК**
**драматург**

### Стан мастацтва

Колькасць беларускамоўных тэатраў змяншаецца. Беларускія спектаклі амаль не прадстаўлены на буйных еўрапейскіх і міжнародных фестывалях, гастролі айчынных тэатраў зведзены да мінімуму, Беларусь трывала асацыіруецца з тэатральнай правінцыяй. Па шэрагу прычын, нягледзячы на багатыя традыцыі і высокія дасягненні ў мінулым, беларускі тэатр адстае паводле ўзроўню развіцця ад сваіх асноўных канкурэнтаў: польскага, літоўскага і расійскага тэатраў.

Кінаіндустрыя знаходзіцца ў стане, блізкім да катастрофы. За апошнія гады не было зроблена ніводнага фільма, які б меў камерцыйны альбо фестывальны поспех. Фонды кінастудыі імкліва старацца і тэхналагічна, і маральна. Калі нашы суседзі даўно асвоілі такі жанр кіно, як тэлевізійны серыял, і актыўна прыцягваюць за кошт гэтага ў індустрыю кінавытворчасці новыя прафесійныя кадры і матэрыяльныя сродкі, беларускія кінавытворцы, фактычна, сталі вытворчымі прыдаткамі замежных кампаній. У гэтых умовах адзінкавыя, гігантаманскія праекты, якія фінансуюцца за кошт беларускага падаткаплацельшчыка, прыносяць хутчэй шкоду, чым карысць айчыннаму кінематографу. Бо пакуль здымае адна здымачная група, без работы знаходзяцца дзесяткі іншых, і не самых бяздарных... Гэта спараджае масавы сыход прафесіяналаў з беларускага кіно.

На сённяшні дзень у беларускіх кампазітараў практычна адсутнічае магчымасць данесці сваю музыку да слухача. У Беларусі не існуе рынку сімфанічнай музыкі, адсутнічае індустрыя гуказапісу класічнай і сімфанічнай музыкі, абмежаваная колькасць залаў для яе выканання. Калі ў развітых краінах спажыўцамі сур'ёзнай музыкі з'яўляюцца перш за ўсё багатыя ці заможныя людзі з высокім узроўнем адукацыі, для якіх наведванне сімфанічнага канцэрта альбо оперы з'яўляецца знакам прэстыжу, дык у Беларусі яе патэнцыяльныя спажыўцы: інтэлігенцыя, настаўнікі, работнікі кульуры, якія часцяком атрымліваюць менш, чым прадстаўнікі іншых катэгорый насельніцтва, і не ў стане забяспечыць сябе нават самым неабходным. У гэтых умовах дзяржава зніжае дзяржаўную замову, такім чынам пазбаўляючы сімфанічную музыку магчымасці т элементарнага выжывання.

### Дзяржава і мастацтва

Нам бачыцца, што корань гэтых праблем крыецца ў прынцыпова няправільных узаемаадносінах, якія існуюць паміж дзяржавай і мастацтвам. Прычым праблемы гэтыя можна падзяліць на дзве катэгорыі.

Першая – гэта праблема ўзаемаадносінаў дзяржавы і мастацтва як фенομена культуры. Даводзіцца канстатаваць, што зараз маюць месца выпадкі ідэалагічнага ўмяшальніцтва, а часам нават і ціску дзяржавы ў сферы мастацтва. Хочацца нагадаць, што гісторыя не ведала прыкладаў, каб умяшальніцтва дзяржавы ў справы мастацтва прыводзіла да станоўчых вынікаў. Таму што сапраўднае мастацтва мае справу не з праблемамі канкрэтнай гістарычнай і палітычнай сітуацыі, а з катэгорыямі надчасовымі і вечнымі. Хочацца сказаць, што так як мастацтва – гэта спараджэнне свабоднай чалавечай волі, яно заўсёды з'яўляецца апазіцыйным да любых спроб абмежавання гэтай свабоды, а значыць, знаходзіцца ў разумнай апазіцыі да любой улады.

> ***Мы сцвярджаем, што ідэалогія ні пры якіх умовах не можа стаць асновай мастацтва, акрамя ідэалогіі любові да Радзімы***

Як паказала гісторыя, менавіта такое мастацтва – мастацтва, якое абараняе ідэалы свабоды і гуманізму, застаецца ў памяці чалавецтва, незалежна ад таго, падабаецца гэта палітычнай уладзе альбо не. Таму мы заклікаем дзяржаўную ўладу не ўмешвацца ў сферу творчасці і прадаставіць творчай супольнасці самастойна вызначаць вектар развіцця мастацтва і ацэньваць вынікі творчай дзейнасці. Са свайго боку мы прызнаем, што і мастацтва не павінна стаць інструментам палітычнай барацьбы і ідэалагічнай прапаганды.

Другі блок праблем бачыцца ва ўзаемаадносінах дзяржавы і мастацтва як індустрыі. Па сутнасці, культутра і мастацтва - гэта таксама галіны нацыянальнай эканомікі, і ўзровень іх развіцця залежыць не ў апошнюю чаргу ад эканамічных умоў. Мы заяўляем пра неабходнасць стварэння цывілізаванага і натуральнага рынку ў галіне тэатра, кіно і музыкі, а таксама забеспячэння рэжыму спрыяння для добрасумленных бізнесменаў і кампаній, якія жадалі б матэрыяльна падтрымаць нацыянальную культуру і мастацтва.

На сённяшні дзень паміж мецэнатамі і культурай стаіць заканадаўчая сцяна, якая робіць нявыгаднымі і нават небяспечнымі любыя спробы дапамагчы мастацтву. Тыя ж бізнесмены ці фірмы, якія, нягледзячы на перашкоды, усё ж такі ўкладваюць свае грошы ў творчыя праекты, чамусьці адразу становяцца аб'ектамі падатковых і іншых праверак. І гэта ва ўмовах татальнага недафінансавання галіны. Мы ўпэўнены, што падобная палавінчатасць, калі дзяржава не выдаткоўвае дастатковых фінансаў і пры гэтым не дае мастацтву зарабляць самастойна, можа прывесці да непапраўных наступстваў. Ужо зараз тэатр, кіно і музыка губляюць вялізарную колькасць таленавітых людзей, якія з'язджаюць за мяжу альбо сыходзяць у іншыя прафесіі. Неабходна ствараць магчымасці для пашырэння рынку тэатра, кіно і музыкі, з тым, каб узнікалі як дадатковы попыт, так і прапанова. Гэта значыць тыя ўмовы, калі б людзі імкнуліся ў гэтыя прафесіі, не баючыся за сваё будучае і за свае сем'і.

### Абавязак дзяржавы

Такім чынам, мы просім дзяржаву не займацца ацэнкай мастацтва, прадставіўшы гэта публіцы і творчай супольнасці, а займацца матэрыяльнай падтрымкай той яго часткі, якая паводле прыроды сваёй альбо па аб'ектыўных прычынах не можа зарабляць самастойна: сімфанічнай музыкі, аўтарскага кіно і тэатра, а таксама нацыянальнай культурнай спадчыны, фальклору, зыходзячы не з уласных ідэалагічных пераваг, а з меркаванняў аўтарытэтных і незалежных экспертаў. Пры гэтым неабходна даць магчымасць тэатру, кіно і музыцы зарабляць самастойна шляхам стварэння адпаведных рынкавых механізмаў, а таксама праз заканадаўчае заахвочванне мецэнацтва і фундатарства.

Мы заклікаем людзей свабоднай волі не паддавацца ідэалагічнаму ўціску альбо хвілінным выгадам палітычнай сітуацыі і не здраджваць ідэалам свабоднай і творчасці.

# Крыжовы шлях на Грунвальд

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ



## *Гістарычная трагедыя (урывак)*

### *Дзейныя асобы*

Вітаўт (Вітальд) – вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, сын Кейстута.

Ягайла – вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, кароль Польшчы, пляменнік Кейстута.

Баярын Ягайлы.

Пасол Ягайлы.

Іван Гальшанскі – удзельны князь, паплечнік Вітаўта.

Скіргайла – вялікі князь Вялікага княства Літоўскага.

Свідрыгайла – удзельны князь.

Мікалай Куроўскі – архібіскуп гнезненскі.

Генрых – князь мазавецкі.

Магістр крыжацкага ордэна.

Камандор ордэна.

XII

Гародня. У пакоі В і т а ў т і Г а л ь ш а н с к і за глякам медавухі. Абодва ўжо на добрым падпітку.

Г а л ь ш а н с к і. А калі Ягайла адпраўляўся ў Кракаў, не плакаў, што родны край пакідае?

В і т а ў т. Не плакаў – суцяшальнікаў было шмат.

Г а л ь ш а н с к і. І ты суцяшаў? У світу і на вяселле трапіў. Запаважаў цябе кароль. Праз Гародню вось ехаў – у госці завітаў. Ды нешта рана спаць пайшоў... На мяне ўсё касавурыўся.

В і т а ў т. Аб чым яснавяльможнаму каралю з нейкімі ўдзельнымі князямі гаварыць? А ў світу, на вяселле ў Кракаў я трапіў, бо ён мяне ў Княстве пакінуць пабаяўся. І цяпер вось нечакана заявіўся. Мог і міма ў сваю Вільню праехаць. Цікуе, сочыць, шпегамі сваімі абкружыў – дыхнуць нечым. Прашчупаць, відаць, заехаў, як я ўспрыму прызначэнне Скіргайлы на велікакняжацкі пасад.

Г а л ь ш а н с к і. Не трэба пра гэта, усё адно цяпер нічога не перайначыш. І шпегі, як ты кажаш...

В і т а ў т. Усё адно, не я яго, а ён мяне баіцца.

Г а л ь ш а н с к і. Лепш раскажы, хто ў вясельную світу трапіў.

В і т а ў т. Вядома, першым шаферам князь трокскі Скіргайла быў, потым суздальскі князь Барыс, дваюрадны брат Ягайлы.

Г а л ь ш а н с к і. Далёка кароль закідвае...

В і т а ў т. Халуй Карыгайла Мсціслаўскі, Вігунд Кернаўскі, Свідрыгайла, вядома ж, Іван Белзскі, Хведар Луцкі, двое іншых: Юры Слуцкі ды Міхайла Заслаўскі. Не дай Бог нікому добраму прысутнічаць на продажы Бацькаўшчыны, а я «спадобіўся». Што будзе? Што будзе, браце Іване?! Выпі за маё цярпенне і паспачувай майму прыніжэнню.

Г а л ь ш а н с к і. Трымайся, князь! (Чокаюцца кубкамі, выпіваюць.)

В і т а ў т. Быў Вітаўт праваслаўны - Магістр зрабіў яго католікам. Вярнуўся ў Гародню - гарадзенцы вярнулі Вітаўта ў праваслаўе. У Кракаве зноў перахрысцілі ў католіка. Як жа, калі у нас цяпер ужо сам Ягайла не Ягайла, а Уладзіслаў II, а я ў яго Аляксандр. (Сплёўвае.) Здзек! Здзек не толькі нада мною, але над верай і самім Богам. Яны давялі ўжо Вітаўта да здрады самому сабе, калі ён прынародна даводзіў каралеве Ядвізе, што яе будучы муж не вінаваты ў смерці князя Кейстута. Вось навошта забойца ўзяў мяне ў вясельную зграю! Вось так крок за крокам Ягайла пазбаўляе мяне волі чалавечай і годнасці княжацкай. Ганьба ды й годзе!

Г а л ь ш а н с к і (бярэцца за кубак). Няхай жыве князь Вітаўт і здохне к а р о л ь Я г а й л а! (Чокаюцца.)



В і т а ў т. Я не пярэчу. Але сам ён не здохне. (Выпіваюць.) Убачыўшы Ядвігу, ён як блазнота адкрыў рот ад здзіўлення яе прыгажосцю. Дзіўлюся боскаму цярпенню: лёс сапраўды выбраў забойцу і здрадніка Айчыны сваім улюбёнцам: дараваў велікакняжацкі пасад, каралеўскі вянец і першую прыгажуню Еўропы...

Г а л ь ш а н с к і. Не зайздросці...

В і т а ў т (абурана). Я – зайздрошчу?! Ды лепей маёй Ганны не тое што ў Еўропе, а ў свеце няма жанчыны! Налівай за Ганну, якую я вымушаны разам з сынамі хаваць ад гэтага вурдалака бог ведае дзе...

Выпіваюць зноў налітае Г а л ь ш а н с к і м у кубкі.

(Дражніць.) «З усіх скарбаў свету – гэты пярсцёнак каштоўнейшы для мяне скарб». Гэта ён Ядвізе пры вянчанні. Айчыну, Дзяржаву, Бацькаўшчыну за пярсцёнак – казе пад хвост!..

Г а л ь ш а н с к і (з апаскаю). Цішэй ты, Вітаўт! Не дай бог...

В і т а ў т. Вось і верны паплечнік мой князе Іван Гальшанскі перапалохаўся. Просіць сядзець ціха. Усе прыціхлі! Таму ён і перадасць велікакняжацкі пасад прапойцы, абжоры, тупіцы і зверу Скіргайлу!

Г а л ь ш а н с к і. Бадай што перадасць...

В і т а ў т. А Вітаўт уцешыцца ўдзелам з былой бацькавай зямлі. (Цягнецца да глечыка з медавухай.)

Г а л ь ш а н с к і (у трывозе). Хопіць, Вітаўт,- заўтра караля да Вільні суправаджаць...

В і т а ў т (сам сабе). Вітаўт траціць цярпенне, дабрыню, спагаду, давер і ласку да людзей. Да чаго дайду – не ведаю. (Кладзе галаву на стол, заціхае.)

З'яўляецца Я г а й л а ў начной сарочцы з падсвечнікам у руцэ. Г а л ь ш а н с к і паднімаецца з-за стала.

Я г а й л а (міралюбна). Караля справадзілі ў спачывальню, а самі балююць...

Г а л ь ш а н с к і. Даўно не бачыліся з князем Вітаўтам дык узялі па келіху... дадаткова.

Я г а й л а (грозіць Гальшанскаму пальцам). Даўно не бачыліся... Ведаю я вас, Гальшанскіх. Але пагуляй ці ідзі спаць, мы з князем (ківае на Вітаўта) таксама даўно не бачыліся...

Г а л ь ш а н с к і. Яснавяльможны кароль, можа сёння не трэба? На падпітку ён і добрым...

Я г а й л а (грозна). Я сам ведаю, што трэба, а чаго не трэба!

Г а л ь ш а н с к і паспешліва пакідае пакой. Я г а й л а за валасы прыпадымае галаву В і т а ў т а.

В і т а ў т. А, кароль Уладыслаў другі? Сядай, брацец, вып'ем на радасцях. Такі дзень – ты мой госць!.. І не глядзі так сурова, бо я ведаю, што ты добры і міласэрны. Таму я цябе ўжо так не баюся, як раней баяўся... Маўчыш, значыцца – добры.

Я г а й л а (садзіцца за стол). І ты ўжо п'еш?..

В і т а ў т. Я толькі са шчаслівага выпадку, а не як наш брацец Скіргайла, – штодзень, штоноч не прасыхаючы. Яснавяльможны кароль, ты хочаш пагаварыць са мною ці хоць бы паслухаць... разумнага чалавека на падпітку, бо падпіты прасохне, а дурны ніколі.

Я г а й л а (добразычліва). Не блазнуй, Вітаўт. Я сапраўды цябе паслухаю... Цяпер не так часта давядзецца сустракацца.

В і т а ў т (амаль цвяроза). Што ў цвярозага ў галаве, тое ў падпітага на языку?..

Я г а й л а. А чаму б мне і не ведаць, што ў цябе там у галаве...

В і т а ў т (налівае медавухі ў кубак, падсоўвае бліжэй да Ягайлы). З гэтага знамянальнага лета 1385-га для цябе і з цябе, брат Ягайла, пачнецца новы перыяд у гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рускага – крэўскі перыяд. Унія паміж Княствам і Каралеўствам у нашым Крэве – знак, адмеціна Божая. Давай, брат, вып'ем і парадуемся. (Бярэ свой кубак, чокаецца з Ягайлам.) Нех жые Польска! Або цум воль, як кажуць крыжакі. (Адпіваюць і ставяць кубкі.) Шкада толькі, што якраз упамянёная к начы пераломная падзея стане, як мне здаецца, пачаткам паступовага заняпаду нашай уласнай дзяржавы. А гісторыя наша падзеліцца на дакрэўскую і паслякрэўскую. Пра першую палавіну людзі будуць успамінаць, як пра часы самастойнасці і дзяржаўнай велічы Княства, пра другую, як пра палавіну бясконцых стратаў сваіх дасягненняў і заняпаду на карысць Каралеўству.

Я г а й л а. Было б смешным думаць, што маё каранаванне на каралеўскі пасад не выкліча нейкай нязгоды ці нейчай незадаволенасці. Факты сведчаць, што гэта і ордэну не ў нос, і табе, бач не да спадобы.

В і т а ў т. Гэта мякка кажучы. Не да спадобы амаль усім з адзінаццаці тваіх родных братоў, а што ўжо казаць пра стрыечных і мяне асабіста ды князёў удзельных.

Я г а й л а. Кароль – не сонца, усіх не сагрэе.

В і т а ў т. Ты, брат, не пакрыўдзішся, калі я табе праўду скажу ці проста папытаюся пра непрыемнае.

Я г а й л а. Ты, я бачу, не вельмі баішся маіх крыўд, таму гавары і пытайся. Паміж намі не павінна быць нейкіх недагаворак.

В і т а ў т. Ты, вялікі князь, думаеш, што сам выбраў Польшчу? Не, яснавяльможны. Польшча выбрала цябе, а дакладней, перад усімі яна выбрала княства і не абы якое, а Вялікае. Выбрала як свой паратунак. Бо без Княства тваё Каралеўства – нішто. Ты, слаўны князь вялікі, спакусіўся на нішто, а загубіш усё. Мы ўсе, назаўсёды страцім сваё Вялікае княства.

Я г а й л а (узяты за жывое). Падставы да такіх тваіх высноў?! Падставы!..

В і т а ў т. Польшча вымушана аддала немцам Сілезію і Памеранію. Польшчу адкінулі ад мора. Над ёю як ненажэрны крумкач завіс і кружыць ордэн. Польшча не толькі хоча абараніцца за кошт Княства, але і аднавіць свае страты. Ты не задаваў сабе пытанне, чаму Польшча не прапанавала Ядвігу нейкаму прускаму герцагу ці самому маршалу, або вялікаму камандору ордэна тэўтонаў?

Я г а й л а. Ну, ведаеш, з такімі фантазіямі...

В і т а ў т. Брат, вялікі князь, кароль яснавяльможны, я многа думаў, чаму Польшча, як дзеўка непрыстойных паводзін, прапанавала сябе менавіта Вялікаму княству.

Я г а й л а. Табе не здаецца, што ты перабіраеш, князь?!

В і т а ў т. Мне здаецца, што гэта толькі пачатак нашых стратэгічных паражэнняў і не менш таго. Каталіцкая Польшча, папа Рымскі пойдуць да канца, выкарыстаюць крыжакоў. А ўсё пачнецца з нас, тваіх братоў, якія ўжо прынялі каталіцкую веру ад Польшчы, а не ад сваіх рэлігійных перакананняў. І ці ўсе язычнікі і праваслаўныя падданыя Княства захочуць стаць католікамі. Твая і мая здрада грэчаскай веры занепакоіць, ужо занепакоіла княства Маскоўскае і іншыя рускія княствы. Яны будуць шукаць супраць нас хаўрусу з Залатой Ардой. Я прадбачу жахлівыя наследкі уніі. Рэч Паспалітая - гэта вайна з Усходам, з праваслаўем, – на вякі! Да скончэння свету!..

Працяг на стар. 12

Заканчэнне. Пачатак на стар. 11

Я г а й л а (адпіўшы з кубка, стрымана). Ты мой перакананы вораг! Вораг, калі і не назаўсёды, то надоўга. І не горшы, і не лепшы за ордэн. Можа, я і таму больш уступліва даў згоду на саюз з Польшчай. Што да палякаў, то сам кажаш, што над імі, як, між іншым, і над намі вісіць крыжацкая небяспека. І гэта таксама падштурхнула мяне да саюзу. Ці можа параіш мне на цябе глядзець, як ты то да крыжажоў бегаеш, то ад іх уцякаеш?

В і т а ў т. Нібыта табе не вядома, чаму я да іх бегаў...

Я г а й л а. Сям'ю, кажуць, дзяцей, жонку гатовы ў заклад ордэну аддаць, а мяне вучыш!

В і т а ў т. Я збіраўся, як ты кажаш, толькі сям'ю, а ты дзяржаву заклаў. І каму? За што? На якую трасцу? Потым, у мяне ёсць магчымасць і закласці і ўратаваць сям'ю і ад крыжакоў, і ад цябе, а ці ўратуеце і ты і твае спадкаемцы дзяржаву, калі польскі ўдаў будзе заглытваць яе па частках і пераграўляць не днямі, не гадамі, а стагоддзямі. І застанецца нашым далёкім нашчадкам ад Вялікага княства адна вялікая куча смярдзючага дзярма таго ўдава.

Я г а й л а (ускоквае з-за стала). Хопіць! Я сказаў хопіць! А то выхаплю шаблю і знясу табе галаву!..

В і т а ў т. Якая шабля! Ты нават шнурка не прыхапіў. І запомні: кранеш, ці атруціць наважышся, у закладніках усё Каралеўства разам з табою застанецца. І большасць князёў удзельных ратаваць яго не кінуцца. А я з Масквою унію заключу.

Я г а й л а. Ты мне пагражаеш?

В і т а ў т. Папярэджваю! Не губляй свайго саюзніка у маёй асобе. А пра палякаў яшчэ скажу. Ваюючы з крыжакамі, яны адначасова вучыліся ў іх. І найперш таму, што апошнія ажыццяўляюць свае гвалты пад шырмаю пашырэння веры Хрыстовай, дзейнічаюць і крыжам, і мячом. Дык вось, польскія магнаты і, між іншым, шляхціцы таксама, рашылі дзейнічаць у адносінах да Княства з тымі ж захопніцкімі мэтамі, што і крыжакі, толькі ўзяўшы крыж і адкінуўшы меч. Замянілі яго крэўскай уніяй. А што да маёй сям'і, то я яе ад цябе, брат, хаваю.

Я г а й л а. Не бойся, не зачаплю я сям'ю тваю. І за дурня мяне не трымай. Трэба будзе, дык і палякаў на месца пастаўлю.

В і т а ў т. Сёння - так, паставіш. А там, у туманнай далечы хто іх паставіць? І ці захоча паставіць, бо гэта будзе ўжо не Польшча, а Жэчпаспаліта... Палякі пачалі сваю будучыню з дынастычнай уніі, пасадзіўшы цябе, ліцвіна, на каралеўскі пасад, але пазбавілі права самому вызначаць свайго спадкаемцу на гэтым пасадзе. і пасад, і карона чужыя, не свае, часовыя... А Жэчпаспаліта некалі ўскладзе карону на свайго прыроджанага паляка-католіка і той пачне не толькі каталізацыю, але і паланізацыю Вялікага княства Літоўскага і Рускага.

Я г а й л а. Мушу сказаць табе, што Скіргайлу, якому будзе даручана Вялікае княства і які не прымаў каталіцкай веры, я неяк накірую, куды трэба, каб ён не крыўдзіў праваслаўных перахрышчэннем іх у каталікі.

В і т а ў т. Скіргайла не той чалавек, якога можна некуды ці на нешта накіраваць. А ты, яшчэ раз табе гавару, кароль яснавяльможны, расшчэпіш ліцвінскую дзяржаву бы пярун тое дрэва – з макушкі да каранёў, якое ніхто не здолее склеіць. І паўтараю: каталіцкая і праваслаўная цэрквы – ворагі не на стагоддзі, а на тысячагоддзі...

Я г а й л а. Поп сваё, чорт сваё. Пайду спаць. Дзякуй за шчырасць. Няблага пагаварылі.

В і т а ў т. Не дзякуй. Я павінен быў папярэдзіць цябе, як брата. Кароль усё роўна мяне не паслухае.

Я г а й л а. Кароль – не!

В і т а ў т. Што ж, кесару кесарава... Будзь шчаслівы і здаровы. Жонка у цябе найпрыгажэйшая з жанчын. Люд будзе яшчэ доўга крычаць «горка», каб табе з ёю было салодка... Я смуткую, Ягайла, што дажыў да гэтай пары.

Я г а й л а. Ты перапіў, Вітаўт. Прасп-ішся, апахмялішся – павесялееш.

В і т а ў т. П'яны праспіцца, дурань – ніколі.

Я г а й л а. Не абражай караля – гэта небяспечна...

В і т а ў т. Я не пра цябе. Я пра сябе.

Я г а й л а. Я пайду. Час бяжыць, а на мне дзяржава двух народаў.

В і т а ў т. Я разумею. Такая вялікая дурышча на аднаго. Жах падумаць...

Я г а й л а. Не знасіць табе галавы, жартаўнік. (Памкнуўся выйсці.)

В і т а ў т. Сапраўды, напіўся я сёння. Ледзьве не забыў сказаць. У хуткім часе ордэн нападзе на Княства. Трэба нам будзе неадкладна сустрэцца на цвярозую галаву ды ўзгадніць, як мы сабакагаловых біць будзем... разам... у брацкім хаўрусе.

XIII

Мальбург. У пакой да пахмурнага, задуменнага М а г і с т р а ўваходзіць Камандор з папераю ў руцэ.

К а м а н д о р. Даруйце, вялікі Магістр, але з Вільні зноў навіна. Ягайла склікаў сойм, які прыняў наступнае рашэнне (зачытвае з аркуша): «Усіх прыродных ліцвінаў абодвух полаў і ўсякага звання да веры каталіцкай далучыць і нават прыняволіць, да якой бы веры яны раней не належалі». У Вільні ўжо заснавана каталіцкае біскупства з сямю прыходамі. Пры ўдзеле самога караля ужо ахрышчана болей за 30 тысяч паганскіх душ. (Глядзіць на Магістра, чакае яго рэакцыі.)

М а г і с т р. Ты думаеш, што вельмі ўзрадаваў вялікага Магістра сваёй навіной? Дык я цябе ўзрадую яшчэ большай. (Бярэ са стала аркуш і зачытвае з яго.): «Сярод усіх каралёў зямлі табе належыць першае месца ў пачуцці святой Рымскай царквы, маці нашай! Вітаем цябе, узлюблены сын, верны слуга, які за справы свае атрымаў вартую ўзнагароду, вянец зямной велічы і, вядома, з часам атрымаеш вянец нябесны. Суцяшай сябе, сын, што мог загінуць з цэлым народам, як схаваная каштоўнасць, ты знойдзены! Суцяшай сябе ў глыбіні тваёй душы, што такія вялікія словы ходзяць па ўсім свеце пра дзеі твае і што ты, такі любезлівы і мілы, знаходзішся ў зіхаценні славы ва ўлонні маці-царквы». Ты можаш сабе ўявіць, што гэта папа Рымскі піша каралю Ягайлу, шлюб якога з Ядвігай – ім прызнаны?! Ты ўсведамляеш, вялікі Камандор, што мы ўжо не патрэбны нават Рыму, які забараняе нам нападаць на Княства і Каралеўства?!

К а м а н д о р. Можа, я не ўсё ўсведамляю, але цябе, вялікі Магістр я разумею. І ў мяне ёсць прапанова.

М а г і с т р. Толькі не старайся суцешыць мяне паспешліва.

К а м а н д о р. Трэба сварыць Ягайлу з Вітальдам, а дакладней – Вітальда з Ягайлам. Трэба пасадзіць мяцежнага князя ў Вільні на велікакняжацкі пасад. Стравіць гэта славянскае звяр'ё, каб яно загрызла адно аднаго. І тады мы пабачым, якія граматы пачне слаць нам яго свяцейшаства і якія пастановы будзе прымаць велікакняжацкі сойм.

М а г і с т р. Дзе зараз Вітальд?

К а м а н д о р. Быў у Луцку. Да гэтага правёў перамовы з сынам маскоўскага вялікага князя Дзмітрыя Данскога Васілём. Той хоча ўзяць у жонкі Вітальдаву дачку Соф'ю. Пры ўдзеле маскоўскага мітрапаліта Кіпрыяна адбыліся заручыны.

М а г і с т р. Далёка закідае вуду княжыч Васіль. Не спіць у шапку і Вітальд. А ты маўчыш пра такія рэчы!

К а м а н д о р. Я якраз не маўчу, вялікі Магістр.

М а г і с т р (нецярпліва). Дзе зараз Вітальд?!

К а м а н д о р. Зараз ён у Чэрску мазавецкім. З усёй сваёй сям'ёю, многімі родзічамі і прыхільнікамі.

М а г і с т р. Што яго туды занесла?

К а м а н д о р. Гэта самае цікавае пра што сёння данёс наш вястун. Скарыстаўшыся тым, што ў Полацку і Віцебску ды іншых княствах супраць Ягайлы паўсталі месцічы, Вітальд вырашыў пачаць вайну з каралём. Сабраў сваіх паплечнікаў: братоў Таўцівіла і Жыгімонта, князёў Юрыя Белзскага, Івана Гальшанскага, баярына Судзімонта Вейшышскага і іншых. Разам і рашылі авалодаць Вільняю і аб'явіць вялікім князем Вітальда.

М а г і с т р. Пазнаю авантурыста. Ну, і...

К а м а н д о р. Але сіл не хапала. Тады прыдумалі пакласці вояў на вазы, зверху прыкрыць дрывамі і абозам уехаць у Вільню. Ды знайшоўся добразычлівец у князя Карыбута, яму і перадаў пра Вітальдаву хітрасць. І ўсё сарвалася, а Вітальд з сям'ёю, як я казаў ужо, уцёк у Чэрск мазавецкі да князя Януша. Прасіў у сваяка дапамогі, але той зноў адмовіў яму.

М а г і с т р (паціраючы рукі ад задавальнення). Даўно, даўно ты не прыносіў мне такіх навін. Па другому кругу як той заяц пайшоў ізгой Вітальд!.. Дай знаць няшчаснаму, што пры добрым ладзе я дарую яму папярэднюю здраду і паабяцай пазыку у 30 тысяч коп грошай пад залог Жамойці. Мы яе калі і не заваюем, то не за дарага купім у Вітальда. Ён спакусіцца, яму трэба наймаць войска. І яшчэ абяцай цвёрда: мы пасадзім яго на велікакняжацкі пасад у Вільні. Умова такая: калі рызыкне да нас прыехаць, то толькі з сям'ёю і родзічамі. На меншае не пагодзімся.

К а м а н д о р. Разумею, вялікі Магістр...

М а г і с т р. Дарэчы, чым заняты цяперашні вялікі князь Скіргайла.

К а м а н д о р. Віжы даносяць, што п'е бесперапынна, весяліцца да ўпаду, па натуры сваёй смелы і люты, хуткі на язык, на руку, на справу. Напіўшыся, траціць розум, выхоплівае шаблю і сячэ, хто пад руку трапляе. Праспаўшыся, плача і сам лечыць пакалечаных. Не ўтойвае, што хоча забіць ці атруціць Вітальда.

М а г і с т р. На сёння было б лепш, каб апіўся ды памёр сам Скіргайла.

К а м а н д о р. Я разумею, вялікі Магістр...




XIV

Кракаў. У пакой да Ягайлы ўваходзіць С к і р г а й л а.

Я г а й л а (не задаволена). Чаму ты не ў Вільні са сваімі воямі, а тут, у Кракаве? І чаму да караля заходзіш са зброяй і ў дарожнай вопратцы?..

С к і р г а й л а выходзіць і вяртаецца без зброі.

Дык чаму ты кінуў войска?! Ці можа здаў Вітаўту Вільню?!

С к і р г а й л а. Вільня, яснавяльможны кароль, трымаецца... у аблозе. А я з атрадам зрабіў вылазку і быў ушчэнт разбіты.

Я г а й л а. Нішто сабе навіна!..

С к і р г а й л а (вінавата). Найлепшы рыцар Еўропы, сам маршал Конрад Валенрад прывёў пад Вільню 70 тысяч крыжакоў. Такога яшчэ ніколі не было, яснавяльможны брат...

Я г а й л а (зрываецца). Ты мне больш не брат! Вояў паклаў! Горад кінуў! Сам уцёк! Чаму ты жывы, вялікі князь Скіргайла?!

С к і р г а й л а. Я ледзьве выратаваўся, пераплыў Вілію і схаваўся ў Крывым горадзе...

Я г а й л а. Схаваўся!.. Уладар Вялікага княства – схаваўся!.. Прапойца, гуляка, свістун, баязлівец – прэч з маіх вачэй! Ты больш не вялікі князь Вялікага княства. Ідзі і пі, пакуль не апражэшся... сам, добраахвотна.

Паніклы С к і р г а й л а выходзіць. З'яўляецца Б а я р ы н.

Б а я р ы н. Яснавяльможны кароль...

Я г а й л а. Ты ўжо ведаеш?..

Б а я р ы н. Бяда! Але ж калі улічыць...

Я г а й л а. Што ўлічыць?! Што яшчэ можна ўлічыць?!

Б а я р ы н. Рыцары сабраліся не толькі з Нямеччыны, але і з Францыі, і з Англіі, і з Шатландыі...

Я г а й л а. Гэта нічога не мяняе!

Б а я р ы н. Вядома ж...

Я г а й л а. Ты, баярын, да мяне з чым?

Б а я р ы н. З благай весткай.

Я г а й л а. І гэты з благай. О, Матка Боска, хто мяне акружае?!

Б а я р ы н. З Бартэнштэйна, з Прусіі, дзе Вітаўт атабарыўся, шпег наш даносіць, нібыта перад самым выхадам на Вільню крыжацкага войска на чале з Конрадам Валенродам і Вітаўта са сваімі харугвамі было да Вітаўта пасольства ад гасудара маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча. Яно ў суправаджэнні князя Івана Гальшанскага і звезла Белым морам Вітаўтаву Соф'ю ў Маскву замуж да таго ж Васіля.

Я г а й л а. Усё ж парадніўся гад з Масквою!

Б а я р ы н. А тут яшчэ ганец з Полацеска...

Я г а й л а. А ў Полацеску што?

Б а я р ы н. Падняліся палачане і Полацеск Вітаўту паддаўся. І гарадзенцы да яго перакінуліся.

Я г а й л а. Усё?!

Б а я р ы н. Калі б усё, твая каралеўская светласць... Ці можа пра тое я сказаў бы ўжо іншым разам?..

Я г а й л а. Гавары! Дабівай караля...

Б а я р ы н. Князі ўдзельныя Юрый Даўгут, Юрый ды Андрэй Заслаўскія, той жа Іван Гальшанскі ды многія іншыя парушылі клятву вернасці тваёй вялікасці і абяцаюць павінавацца табе не раней, як пасля смерці Вітаўта. Не паслугач, маўляў, Вітаўт крыжацкі, а той чалавек, які мог бы... які мог бы..

Я г а й л а. Не мямлі, баярын, пакуль я цябе слухаю. Што Вітаўт мог бы?!

Б а я р ы н. Узначаліць барацьбу за разрыў уніі з Польшчай...

Я г а й л а ў ярасці выхоплівае шаблю і крышыць ёю ўсё, што трапляе пад руку.

Б а я р ы н выбягае.

Заслона.

XV

Мальбург. У пакой да М а г і с т р а ўваходзіць К а м а н д о р.

К а м а н д о р. Добрыя навіны, вялікі Магістр. Ягайла адабраў уладу ў Скіргайлы над Вялікім княствам. І прызначыў на яго месца Аляксандра-Вігунда.

М а г і с т р. Пашанцавала Скіргайлу – ён памрэ цяпер сваёй смерцю... ад перапою, а вось Аляксандру-Вігунду давядзецца дапамагчы.

К а м а н д о р. Аляксандр-Вігунд, царства яму нябеснае, памёр ужо... нечакана.

М а г і с т р. Наша работа?

К а м а н д о р. Не. Верагодна дапусціць, што супраць скараспелага вялікага князя - заўзятага прыхільніка палякаў – ліцвінскія князі, прыхільнікі Вітальда, учынілі змову...

# Асэнсаванні

## Як узнік Цэнтр імя Францыска Скарыны І ці стане ён Інстытутам Беларусі

**Адам Мальдзіс**



**У гэтым будынку цесніцца ў некалькіх пакоях Цэнтр імя Скарыны (Мінск, Рэвалюцыйная, 15). У 1920-х гадах тут быў Інстытут беларускай культуры**

Вярнуўшыся з Браціславы, я пачаў падобнае планаваць і ў Цэнтры Скарыны. Задумалі даведнік «Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў свеце» (дарэчы, першы том, па памежных краінах, ужо выйшаў, а ці выйдуць наступныя – невядома).

Выканаўшы праграму ЮНЕСКО па рэстытуцыі, змаглі купіць тры камп'ютэры, на якіх пачалі назапашваць бібліяграфічную інфармацыю па гуманітарных навуках паводле арыгінальнай сістэмы. Як нам сказалі дасведчаныя людзі, была гэта першая і адзіная беларускамоўная праграма такога кшталту ў нашай краіне. Неўзабаве за інфармацыяй да нас пацягнуліся выкладчыкі і навукоўцы, з Мінска і з абласцей, свае і замежныя, а за імі краязнаўцы, службоўцы, у тым ліку і дыпламаты перад ад'ездам за граніцу. Гэта нам ускладняла быццё, але і радавала: значыць, мы патрэбны людзям! Сваю справу рабілі нашы беларусазнаўцы, тэрмінолагі, гісторыкі культуры, краязнаўцы.

Аднак нам па-ранейшаму было цесна. Праўда, спачатку ідэя стварэння Агульнабеларускага дома здавалася рэальнай. Савет міністраў і Мінскі гарвыканкам пайшлі нам насустрач. Калі мы пераходзілі з Акадэміі навук у Міністэрства адукацыі, нам выдзелілі жаданы гістарычны будынак па вуліцы Рэвалюцыйнай, а былой Койданаўскай. Пачалося павольнае высяленне розных арганізацый, пераважна сілавых, рамонт трох пакояў на першым паверсе. І тут неяк, яшчэ ў Акадэміі раздаецца званок: да вас едуць два намеснікі старшыні гарвыканкама: Уладзімір Ярмошын (потым ён стаў мэрам, а пазней прэм'ер-міністрам) і Аляксандр Сасноўскі (тады ён адказваў за культуру, а потым нейкі час быў і міністрам культуры).

Званок мяне вельмі заінтрыгаваў: то з месяц дабіваешся прыёму ў іх, а тут самі едуць пільна. Што за гэтым крыецца?

Адказу давялося чакаць нядоўга. Першым пачаў гаворку Аляксандр Сасноўскі:

– Набліжаецца Першы з'езд беларусаў свету. А «Бацькаўшчына», яго арганізатар, адмовілася ўзяць выдзелены яму кінатэатр «Беларусь»... Яўген Лецка заўпарціўся.

– І правільна зрабіў, - перабіў я. – Бо што яму там рабіць? Нейкія шоу праводзіць?

– Таму і хочам, каб вы падзяліліся з ім, аддалі на першым паверсе якія два-тры пакоі. Мэты ж у вас блізкія. Вы - па дзяржаўнай лініі, яны - па грамадскай... Вось і створыце ваш жаданы Усебеларускі дом.

Што мне заставалася рабіць? Адмовіць? Дык я ж сам уваходжу ў аргкамітэт І з'езду беларусаў свету... Пагадзіўся на два-тры пакоі. А праз які месяц прыходзіць рашэнне: аддаць «Бацькаўшчыне» ўвесь першы паверх з прыбудовай. Не дужа перавываў, бо гэта ж клалася ў канцэпцыю Усебеларускага дома. Іншая справа, што «Бацькаўшчына» потым той паверх не змагла ўтрымаць. Прыбудову занялі спартсмены. Давалося ісці да Уладзіміра Ярмошына, ужо прэм'ер-міністра, нагадаць усю сітуацыю. Чалавек ён сумленны: дапамог вярнуць.

А тады мы суцяшалі сябе: застаюцца яшчэ нам другі і трэці паверхі. Праўда, на трэцім цвёрда засела пракуратура Фрунзенскага раёна. Але абяцалі яе адсяліць. Праз гадоў пяць сапраўды адсялілі. Але тут жа замянілі кантрольна-рэвізійнай структурай.

З-за суседства з пракуратурай кур'ёзы ўзнікалі: узнімаешся, скажам, з нямецкім прафесарам па сходах, якія памятаюць крокі Купалы, Гарэцкага і Ластоўскага, а зверху спускаецца пад аховай наўмыснік з кайданкамі на руках. Мой калега, ведаючы пра трагічны лёс інбелкультаўцаў і пра тое, што мы тут цяпер, спалохана спыняецца:

– Што – ужо ў вас пачалося?!

Але з цеснатой яшчэ неяк можна было мірыцца. Горш, калі неставала фінансавання. Да 1998 года выпадкі, калі затрымлівалася зарплата, здараліся зрэдку. У такіх сітуацыях супрацоўнікі бралі адпачынак за свой кошт, а потым пераходзілі на дагаворную тэматыку, якую ўдавалася выбіваць. Але з вясны 1998 г. фінансавыя цяжкасці ўзраслі, сталі хранічнымі. І «вінаваты» ў гэтым аказаўся не хто іншы, як наш суайчыннік Адам Міцкевіч...

Як вядома, у 1998 г. ва ўсім свеце адзначалася 200-годдзе з дня нараджэння геніяльнага польскага паэта, чыя спадчына належыць і нашаму народу. Да юбілею мы падрыхтавалі і выдалі кнігу «Адам Міцкевіч і Беларусь». Запланавалі міжнародную навуковую канферэнцыю «Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры». Правялі спецыяльнае пасяджэнне, каб зрабіць рэкамендацыі, дзе лепей стаяць помніку Адама Міцкевіча – тады вакол гэтага разгарэліся спрэчкі. Праўда, выбар зрабілі: сквер каля Гарадскога Вала, але помніка там няма да гэтага часу.

І вось з Варшавы, з канцылярыі прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага прыходзіць ліст: ці не даў бы я згоду ўвайсці ў Агульнапольскі камітэт па святкаванні двухсотай гадавіны з дня нараджэння Адама Міцкевіча?! Прынцып для замежнікаў такі: адна краіна – адзін прадстаўнік. Я прыгадаў, што нашаму Цэнтру тут чырванець не давядзецца, – і адказаў, што лічу за гонар.

Праз пару тыдняў прыходзіць афіцыйнае запрашэнне за подпісам прэзідэнта Польшчы на інаўгурацыю Года Міцкевіча ў Палацы Рэспублікі. Ведаючы з планёрак у Міністэрстве адукацыі, што ў выпадку замежнай камандзіроўкі кіраўнік рэспубліканскай установы павінен пра гэта паведаміць у Адміністрацыю прэзідэнта, я, будучы чалавекам законапаслухмяным, набраў нумар тэлефона і паведаміў, што вось узнікла такая сітуацыя.

– Пачакайце, – прагучала на тым канцы. – У нас жа ёсць дзяржаўны камітэт па юбілею Міцкевіча на чале з Уладзіміра Пятровічам Замяталіным. Запрашэнне за подпісам Квасьнеўскага, кажаце... А-а, а ці не маглі б вы перадаць сваё запрашэнне Уладзіміру Пятровічу? Ён жа дзяржаву прадстаўляў бы.

– Я то мог бы, – і тут мне раптам уявілася ўся сітуацыя ў Варшаве. – Але дыплом там, пэўна, ужо выпісаны на мяне. Ды і ад сяброў камітэта там запатрабуюць не службовай, а навукова-культурнай працы.

– Ну, тады пазваніце гадзіны праз дзве.

– Праз гадзіны дзве званю. Чую:

– Ну як, не хочаце аддаць запрашэнне Уладзіміру Пятровічу?

– Я то хацеў бы, таму што толькі лішнія клопаты. Сёння пятніца, ужо вечарэе, а ў панядзелак раніцай трэба быць у Варшаве. Перадаць можна, але ж толькі канфуз выйдзе.

– Ну, – тады ўжо глядзіце самі, – голас субяседніка тут яўна набыў металічную інтанацыю.

– Адчуўшы няладнае, ліхаманкава пачаў шукаць які выхад. Узаемаадносіны ж Уладзіміра Замяталіна з Васілём Стражавым, міністрам адукацыі, як відаць з друку, вельмі і вельмі напятыя. Мая «самаволка» можа быць выкарыстана ў гэтай сітуацыі не толькі на шкоду Цэнтру, але і міністэрству. І адначасова ехаць трэба, бо... адна краіна – адзін чалавек. Таму, паклікаўшы свайго намесніка Захара Шыбеку, уручыў яму заяву аб сваім адпачынку на тры дні за ўласны кошт. Паездка нібы стала маёй прыватнай справай.

У панядзелак зала Палаца Рэспублікі выглядала ўрачыста. Юпітэры, кветкі... усе, у адрозненне ад мяне, у вячэрніх касцюмах. Дыпломы прэзідэнт уручаў у алфавітным парадку прозвішчаў. Калі чарга дайшла да мяне, я ў адказ уручыў нашу кніжку «Адам Міцкевіч і Беларусь». Прэзідэнт заўсміхаўся, паказаў кніжку ў тэлевізійныя камеры:

– Но відзіце, паньство, комітэт юж зачына дзялаць.

Назаўтра мяне запрасілі на пасяджэнне аргкамітэта па правядзенню міжнароднай навуковай канферэнцыі. Намячалася яна восенню. І зноў дзейнічаў прынцып: адна краіна – адзін дакладчык. Давялося тэрмінова прадумаць і назваць сваю тэму.

А ў сераду, вярнуўшыся ў Мінск, даведаўся ў знаёмага начальства, што напярэдадні ў Савеце Міністраў адбылося пасяджэнне ўжо нашага міцкевічаўскага камітэта. Правяраючы прысутнасць і дайшоўшы да майго прозвішча, старшыня яго рашуча выкрасліў. І нібыта сказаў:

– Ну, пусть его там поляки чествуют.

Праз месяц-другі я адчуў, што адносіны і да мяне, і да Цэнтра рэзка змяніліся. Прайдзеш у Міністэрства адукацыі або ў іншую ўстанову, каб вырашыць фінансавыя ці гаспадарчыя пытанні, а на цябе здзіўлена пагляддаюць: ты яшчэ маеш нахабства хадзіць?! Мала што ў бэнээфе быў, дык і цяпер з уладамі непаслухмяны. Так табе і дапаможам.

Коса на мяне пачалі пазіраць і некаторыя супрацоўнікі Цэнтра. Бо чаму я павінен атрымоўваць нейкія дыпломы, а яны не атрымоўваць у час зарплату? Дзеці ж есці хочуць. адчуўшы, што святла ў канцы тунеля не бачна, я сказаў на планёрцы:

– Калегі, пара, проста трэба для Цэнтра, каб хто з вас пераняў ад мяне лейцы.

Асаблівая надзея была ў мяне на Захара Шыбеку. Ён толькі што абараніў доктарскую дысертацыю, падрыхтаваў кніжку па гісторыі Беларусі. Але, бачачы, як цяжка даецца мне дырэктарства, Шыбека не спяшаўся ўзяць эстафету. Аднекваліся і Рагойша, і Цыхун. А тучы згушчаліся. Ніхто з высокіх уладаў не прыйшоў на нашу канферэнцыю «Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры». Прынцыпова не запрасілі мяне на свята ў Навагрудку. Хоць, мусіць, не паехаў бы і сам. Бо хіба ж не здзекам над вешчуном быў гала-канцэрт на Замкавай гары, калі да паўночы дрыжэлі ад тых дэцыбелаў рэшткі муроў? Міцкевіч, мусіць, перавярнуўся б у труне на вавелі, калі б даведаўся пра такое.

І тут прыйшоў час ехаць у Варшаву і Познань на навуковую канферэнцыю. Зноў бяру для святога спакою адпачынак за свой кошт, зноў адчуваю пільную ўвагу да сваёй персоны. Але не звяртаю на гэта асаблівай увагі, бо асноўны клопат – даказаць, што і мы, беларусы, маем права ганарыцца Міцкевічам. Нешта ў суботу дапісваю ў Цэнтры, паперы збіраю, як раптам раздаецца тэлефонны званок.

– Адам Іосіфавіч, вы ўсё ж едзеце? - Чую голас Любові Мікалаеўны Уладыкоўскай-Канаплянік, супрацоўніцы Міністэрства адукацыі. Ад яго яна ўваходзіла ў нашу Вучоную раду, курыравала Цэнтр і таму да драбніц ведала ўсе нашы праблемы.



**Адам Мальдзіс як ачольнік Цэнтра імя Скарыны прымае ад пасла Ізраіля Пяцікніжжа – унікальны пераклад на старабеларускую мову з габрэйскай быў зроблены ў XVI стагоддзі, у часы Скарыны, у віленскім габрэйскім асяроддзі**

Заканчэнне на стар 16

# Дзядзя Сэм у Іраку

## *Калькуляцыя вайны і акупацыі*





Associated Press

Амерыканская газета Globalist Paper надрукавала разлікі незалежнага эксперта Эна Рычарда, былога ўрадавага бюджэтнага эканаміста, які падлічыў кошт ваенных дзеянняў у Іраку.

**Непасрэдна вайна**

***Ад 50 до 95 мільярдаў (у выпадку бліцкрыгу).***

Бюджэтныя структуры Кангрэса і эксперты адміністрацыі ацэньваюць суму выдаткаў на «кароткую» вайну ў 50 мільярдаў даляраў. У тым ліку адпраўка войскаў і абсталявання ў рэгіён – 14 мільярдаў, першы месяц баёў – каля 10 мільярдаў і па 8 мільярдаў даляраў – кожны наступны. Яшчэ 9 мільярдаў спатрэбяцца на вяртанне войскаў дамоў па завяршэнні баявых дзеянняў.

Міністэрства фінансаў ЗША называе лічбы ў 65–90 мільярдаў даляраў.

Відавочна, што калі вайна па якіхнебудзь прычынах працягнецца больш за некалькі месяцаў, яе кошт перабольшыць гэтыя сумы.

**Выплаты хаўруснікам**

***Ад 6 да 26 мільярдаў даляраў.***

Перад пачаткам вайны ЗША не ўдалося сабраць вакол сябе «кааліцыю добрай волі», як хацелася адміністрацыі прэзідэнта Буша. З другога, боку, у наш час альянс з ЗША становіцца сінонімам абяцання матэрыяльнай падтрымкі. Адміністрацыя можа прызнаць неабходным «падмазаць» дзяржавы, якія далучыліся да антыіракскай кааліцыі.

**Неадкладныя гуманітарныя патрэбы**

***Ад 10 да 30 мільярдаў даляраў.***

Дастаўка і складаванне прадуктаў харчавання і медыкаментаў у чаканні напліву бежанцаў праводзіцца амерыканскім урадам па ўзгадненні з ААН і няўрадавымі арганізацыямі. Запасы рэчаў першай неабходнасці ўключаюць 3 мільёны дзённых харчовых пайкоў, коўдры, каністры з вадой і лекі.

**Дапамога бежанцам**

Ацэнкі колькасці мяркуемых бежанцаў розняцца ад 500 тысяч да 2 мільёнаў. Вярхоўны камісар ААН па бежанцах разлічвае на 900 тысяч. Таксама чакаецца вялікая колькасць вымушаных перасяленцаў у самым Іраку.

**Пагрозы жыццю і здароўю**

Ваенныя аналітыкі робяць такія прагнозы:

Амерыканскія войскі: ад 100 да 5000 (раненых у 3–4 разы болей).

Іракскія войскі: ад 2 000 да 50000.

Грамадзянскае насельніцтва: дзесяткі тысяч.

**Пасляваенная акупацыя і аднаўленне**

***Ад 12 да 48 мільярдаў на год.***

Акупацыя Ірака абыдзецца ЗША ў 1–4 мільярды даляраў на месяц у залежнасці ад таго, якая будзе доля амерыканцаў сярод акупантаў з іншых краінаў. Ацэнка Савета па міжнародных адносінах – 20 мільярдаў на год на працягу некалькіх гадоў.

**Галоўныя выдаткі**

***Ваенная акупацыя.*** Да 200 тысяч вайскоўцаў са скарачэннем на другі год да 50 тысяч. Транспарціроўка, будаўніцтва ваенных баз.

***Іракскія войскі.*** Злучаным Штатам прыйдзецца ўзяць іх на фінансавае забеспячэнне.

***Зброя масавага знішчэння.*** Спатрэбіцца значная сума, каб знайсці і абясшкодзіць іракскія запасы біялагічных, хімічных і ядзерных матэрыялаў – паколькі менавіта іх прысутнасць была заяўлена як галоўная падстава вайны.

**Адраджэнне**

***Інфраструктура.*** Аднаўленне школ, жылля, вода – і энергазабеспячэння, каналізацыі, аўтамабільных дарог і чыгункі, разбураных нафтапрадпрыемстваў і нафтаправодаў.



Associated Press

***Эканамічная сістэма.*** Іраку спатрэбіцца дапамога ў перабудове і мадэрнізацыі бюджэтнай і падатковай сістэм, стабілізацыі нацыянальнай валюты і вырашэнні праблем даўгоў і рэпарацыяў.

***Палітычная сістэма.*** Грошы патрэбны на зарплату дзяржаўным службоўцам, на стварэнне судовай сістэмы і на іншыя мерапрыемствы пераходу ад дыктатуры да дэмакратыі.

***Бяспека.*** Каб ваенныя маглі сысці, у краіне патрэбна забяспечыць пэўны ўзровень стабільнасці. Неабходны міратворцы, паліцыя, галоўным чынам, для прадухілення выбухаў этнічных канфліктаў.

**The Globalist**



Associated Press







Associated Press

## Назіранні

### *Сухі закон*

Працаўнікі бюро занятасці горада Любэк знайшлі шлях выхавання большай самадысцыпліны сваіх кліентаў. Беспрацоўным павінны скарачаць фінансавую дапамогу, калі яны прыходзяць на падпітку.

Гэтым самым бюро занятасці Любэка займае перадавую ролю ў Германіі. Як і пры кантролі дарожнага руху, наведнікі відавочным уздзеяннем алкаголю ў будучыні будуць павінныя дзьмуць у трубачку. Намеснік дырэктара бюро занятасці Вольфганг Грыбель сказаў газеце: «Нам не даспадобы ўвесь час скандаліць з п'янымі».

Прылада для праверкі на алкаголь, згодна з дакладам, павінна быць набытая ў бліжэйшыя дні. У чым дыханні аказваецца больш за 0,5 праміле алкаголю, не мае права атрымаць у гэты дзень дапамогу па беспрацоўі.

**«Lubecker Nachrichten»**

**Пераклаў Віталь Станішэўскі**



**Гэты сімпатычны гурт малпаў-бебуінаў жыве ў Эфіопіі. Здымак прызнаны адной з найлепшых работ фотажурналістаў 2002 года ў намінацыі «Прырода і навакольнае асяроддзе». Яго аўтар – Нік Нікальсан (Злучаныя штаты Амерыкі).**

# Тэсціраванне: 2 у 1

***Як вядома, апрача пераходу на дзесяцібальную сістэму ацэнкі ведаў, дванаццацігодку і пяцідзёнку, рэформа беларускай школы прадугледжвае таксама замену выпускных школьных экзаменаў і абітурыенцкай кампаніі адзіным дзяржаўным іспытам праз кампутарнае тэсціраванне. Так бы мовіць, два ў адным. Тэсціраванне праводзіцца ў Беларусі ўжо трэці год, і з кожным годам такую праверку сваіх ведаў выбіраюць усё больш выпускнікоў школ.***



### «За» і «супраць»

Помню своё наіўнае дзіцячае здзіўленне, калі даведалася, што экзамены паўсюдна здаюцца праз выцягванне білета з экзаменайцыйнымі пытаннямі: «Як жа так – экзамен жа не латарэя?» Іспыт падаваўся мне сур'ёзнай і адказнай справай, дзе гулі з фартунай зусім не да месца.

Каб здаць традыцыйны іспыт, не трэба быць дужа разумным. Дастаткова нешта ведаць праз пень-калоду, мець у кішэні пару шпаргалак, добрыя адносіны з экзаменатарам і ісці здаваць іспыт у апошніх шэрагах, калі выкладчык ужо стомлены. Вось і ўвесь сакрэт поспеху.

У кампутарных тэстах элемент верагоднасці зведзены да мінімуму. Натуральна, сярод варыянтаў адказу на пытанне выпадкова можна выбраць правільны, але, нічога не ведаючы, адказаць на ўсе 40 ці 60 пытанняў тэсту немагчыма.

Да таго ж, кампутар – самы аб'ектыўны экзаменатар. Прыхільнікі рэфармавання школы лічаць гэта вялікім плюсам. Маўляў, выкладчык жа чалавек, і нічога чалавечае яму не чужацкае. Хтосьці яму можа падабацца, нехта – не, да шчыга яго можна спакусіць хабарам. А з кампутарам гэта ўсё выключана. Разам з тым адразу ж адпадае неабходнасць прыцягваць да абітурыентскай кампаніі антыкарупцыйныя органы.

Працаўнікі кампутарнага тэсціравання, наадварот, лічаць, што аб'ектыўнасць на экзамене апраўдана не заўсёды. Веды ведамі, але ніякі кампутар не зможа ацаніць здольнасці вучня, глыбіню мыслення, нестандартны творчы падыход у вырашэнні пастаўленай задачы.

### Выбіраюць кампутар

Самі школьнікі ўжо вызначыліся – яны ўсё часцей выбіраюць тэсціраванне. І зусім не таму, што такая форма экзамену справядлівейшая ці аб'ектыўнейшая за традыцыйную, бо ў сваім жыцці яны здавалі не так шмат іспытаў, каб сутыкнуцца з несправядлівасцю ў ацэнцы ведаў. Проста так прасцей здаваць. Перад кампутарам не прыйдзецца чырванець за свае веды, трымаць слова перад вялікай аудыторыяй, нэрвова шукаць адказ на нечаканае дадатковае пытанне настаўніка. І нават хваляваца за выніковую адзнаку не трэба. Дый вердыкт, які вынес кампутар па выніках тэста, пакуль не канчатковы, і ўсё можна будзе выправіць на звычайных выпускных ці ўступных экзаменах.

У Беларусі тэсціраванне праводзіцца ўжо трэці год запар, і з кожным годам набывае сярод выпускнікоў школ усё большую папулярнасць. Першы год набралася 32 тысячы жадаючых прайсці тэсціраванне, на другі – 60 тысяч, а сёлета чакаецца ажно 120 тысяч удзельнікаў. І не дзіўна, бо лепшай магчымасці аб'ектыўна ацаніць свае веды перад першым у жыцці больш-менш сур'ёзным іспытам і прыдумаць цяжка. А калі вынік атрымаецца неблагі – яго па жаданні могуць залічыць замест экзамена ў школе і ўступнага экзамена ў некаторых ВНУ, тэхнікумах і вучэльнях. Вынік слабы – таксама добра: ведаеш вартасць сваіх ведаў, прагалы ў іх, і ёсць час тое-сёе падвучыць перад звычайнымі экзаменамі.

Пакуль тэсціраванне праводзіцца не па ўсіх прадметах: руская, беларуская мовы, матэматыка, фізіка. І сертыфікат, які выдаецца па ягоных выніках, прымаюць не ва ўсіх навучальных установах. У Беларускі дзяржаўны універсітэт з сертыфікатам тэсціравання ў кішэні не паступіць. Дарэчы, у БДУ праводзяцца свае папярэднія платныя экзамены, якія нашмат даражэйшыя за цэнтралізаванае тэсціраванне.

### Прасл ыязіліся

Нарэшце дзякуючы кампутару мы можам уявіць сабе сапраўдную карціну таго, што творыцца ў галовах сённяшніх выпускнікоў школ. Толькі 5% школьнікаў мінулым годам на тэсціраванні атрымалі адзнаку «выдатна». Затое "двоек" было ў пяць разоў болей. Атрымліваецца, што кожны чацвёрты беларускі школьнік не засвоіў школьную праграму!

Пагадзіцеся, лічба ўражвае. Адно з трох: альбо тэсты цяжкія, альбо нашы дзеці атрымліваюць няякасную адукацыю, альбо яны недастаткова таленавітыя, мякка кажучы. Для параўнання скажу, што сярод расійскіх школьнікаў па тых жа самых тэстах (да гэтага года ў нас карысталіся расійскімі тэстамі і толькі сёлета распрацавалі свае, беларускія) «двоек» удвая меней, а «пяцёрак» крыху болей. Атрымліваецца, што справа не ў цяжкасці тэстаў? Бо і працэнты двоечнікаў на тэсціраванні і ў звычайнай абітурыенцкай кампаніі ў нас прыблізна аднолькавыя. Напрыклад, у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце па выніках мінулагодняга прыёму студэнтаў 30% абітурыентаў паказалі на іспытах нездавальняючыя веды.

Відаць, сапраўды ў нашай школе наспелі рэформы. Бо калі тэсціраванне сапраўды стане адзіным дзяржаўным іспытам пры выпуску са школы і паступленні, чвэрць беларускіх вучняў не змогуць прайсці тэсціраванне і такім чынам нават проста скончыць школу.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Бард Андрэй Мельнікаў

## *аб сабе, аб аўтарскай песні, сваіх густах і поглядах*

***Андрэй Мельнікаў па любым раскладзе ўваходзіць у першую чацвёрку беларускіх бардаў. Яго імя вядома далёка за межамі Беларусі, на ягоным рахунку 12 запісаных магнітаальбомаў. Мельнікаў стаў першаадкрывальнікам тэмы нацыянальнай памяці ў беларускай аўтарскай песні.***

За 14 гадоў, што мы знаёмыя, ён так да канца і не пазбавіўся трасянкавай лексікі ды эгацэнтрычнасці ў парадыгме «я і сусвет». І наша гутарка натуральна пачалася з аўтарскае песні.

**– На сённяшні дзень Андрэй Мельнікаў з'яўляецца аўтарам некалькіх грамадска значымых праектаў: гэта адкрыты фестываль беларускай аўтарскай песні «Аршанская бітва», які існуе з 1991 года, фестываль «Гэта – мы!..»**

– На сённяшні дзень трэцім такім праектам я лічу талькоўскі фестываль у Тальцы. Гэта мястэчка на мяжы Мінскай і Магілёўскай абласцей, паміж Асіповічамі і Пухавічамі. Там ёсць лецішча Якуба Коласа, там быў раён актыўнага паўстання 1863–1864 гг. Пасля 1864 году там шэраг сем'яў выслалі, пасля чаго ў Расіі апынуліся такія прозвішчы, як Маляньковы, Кляцковы...

**– Намёк зразумеў... Канцэптуалізм (ты не будзеш адмаўляць, што ўсе гэтыя праекты канцэптуальныя, разлічаныя на «неаднаразовы» ўжытак?) – гэта адна з тваіх асноўных рыс ці проста выпадковасць, па жыцці, як кажуць? І ў якім на сёння стане рэалізацыя праекта «Талька»?**

– Не, па жыцці я – пачынальнік, адназначна. На 11-ю гадавіну смерці Ігара Талькова, 6 кастрычніка, мы правялі там фестываль з мясцовымі скаутамі. Адкрываў яго Уладзімір Пузыня, знакаміты майстар музычных інструментаў, адкрываў сваёй сурмой. Ён таксама з тых мясцін. Як ні дзіўна, але якраз беларусы праявілі сябе там больш годна; «русскоязычная часть», якая туды прыехала, жадала проста паказаць сябе. Фестываль доўжыўся некалькі гадзін, у невялічкай зале ДК прысутнічала каля сотні гледачоў.

**– Я ведаю, што на станаўленне цябе як творцы, як спевака, як паэта ў свой час моцны ўплыў аказаў Уладзімір Высоцкі. Уявім гіпатэтычна, што яго не было б, ты яго не чуў бы, не сустракаўся з яго маці – карацей, такога следу ў тваім жыцці не было б. Ці стаў бы ты без гэтага займацца тым, чым займаешся сёння?**

– Стаў бы. Напэўна, з нейкімі папраўкамі. Па-іншаму б шлях складваўся...

**– То ёсць ні Візбар, ні хто іншы на цябе такога ўплыву не аказаў?**

– Скажам так: Візбар на мяне аказаў уплыў. Я магу нават сказаць, што Візбара я паважаю значна больш, чым Высоцкага. На мой погляд, ён быў менш залежны ад грамадства. Візбар быў больш свабодным чалавекам. Прагнуў, прынамсі, гэтай свабоды. Не славы, а менавіта свабоды.

**– Ты хочаш сказаць, што Высоцкі больш арыентаваўся на папулярнасць?**

– Высоцкі ўсё ж такі быў артыстам. Для любога артыста гэта вельмі важна – вобразатворнасць, публіка, усе гэтыя воплескі, гэтае спачуванне табе... Я не бяру тут узровень таленту; можа Высоцкі больш талентавіты, чым Візбар, але... Візбар стаўся больш свабодны ў творчасці. Тут я магу выкласці сваю тэорыю: людзі такога маштабу, скажам, якія знаходзяцца на вяршыні нейкай піраміды, яны дажываюць да такога ўзросту, да тае свядомасці, якую яны ўвасабляюць. Вось Высоцкі дажыў да ўзроўню свядомасці 42 гады. Далей ён проста не мог пражыць. Талькоў – да 35 гадоў са сваім рамантызмам. Візбар – да 50.

**– То ёсць, ты – прыхільнік вось такога фаталістычнага погляду на людскія лёсы?**

– Так. У старасці ёсць мудрасць, у маладосці ёсць моц. Чалавек, які страчвае нейкую частку сваёй моцы і не набывае нейкай мудрасці – ён знікае, ён гіне ці співаецца, што па сутнасці тое ж самае. Для беларускай літаратуры, скажам, такая асоба – гэта Анатоль Сыс. Чалавек, які ў 25 гадоў стаў найвялікшым беларускім паэтам...

**– Не так даўно выйшла яго новая кніжка...**

– Не, гэта зборнік яго старых вершаў. Сыс мне ў прыватнай размове прызнаўся, што ўжо 10 гадоў не піша вершаў увогуле. Іншая справа, што шмат якія яго вершы не былі надрукаваныя раней; дзе цэнзура, дзе па-за цэнзурай... Але гэта ўжо не па тэме.

**– Добра, тады па тэме: насёння выразна прасочваецца суіснаванне такіх нераўнамерных і нераўназначных маштабаў беларускай аўтарскай песні на Беларусі. Адзін – гэта ўласна беларуская аўтарская песня, гэта Алесь Камоцкі, Віктар Шалкевіч, Зміцер Бартосік, Андрэй Мельнікаў канешне ж... Другі – гэта Барыс і Галіна Вайханскія, Тацццяна Ліхавідава... Яны суіснуюць самі па сабе, мала судакранаючыся і амаль не ўплываючы адзін на аднаго. Кожны мацярык мае сваю аўдыторыю. Твой прагноз: ці доўга будзе працягвацца вось такое аўтаномнае суіснаванне гэтых мацерыкоў?**

– У мяне проста іншы погляд на гэтыя рэчы. Я, напрыклад, не бачу гэтых двух мацерыкоў. У мяне лепшыя адносіны з Таццянай Ліхавідавай, чым з Алесем Камоцкім, хаця мы часцей сустракаемся з ім.

**– Мне здаецца, амаль два дзесяцігоддзі гэтага суіснавання ўжо самі адказалі на гэтае пытанне: раз яны да гэтага на яго не палезлі, то ўжо і не палезуць. Але ў цябе, ведаю, ёсць спробы ўклініцца і ў той мацярык?**

– Ну, не толькі спробы. Проста гэтым людзям цікава тое, што я раблю... Іншая справа, што калі ў мінулую восень перада мной паўстаў выбар: ці ехаць у Віцебск на чарговы фестываль, які праводзіла Таццяна Ліхавідава, ці ехаць у Польшчу – у Беласток на «Бардаўскую восень» – то я паехаў на «Бардаўскую восень».

Працяг на стар. 16

# Бард Андрэй Мельнікаў



Заканчэнне. Пачатак на стар. 15

**– Андрэй, такая вось праблема: аўтарская песня раней ніяк не ўплывала на беларускую літаратуру, затым - у самай малой ступені. Цяпер гэты ўплыў рэзка павялічыўся, пачаліся ўжо нейкія перакрыжаванні, вядомыя барды пачынаюць выдаваць свае зборнікі вершаў, пісаць прозу. У цябе ў гэтым накірунку няма ніякіх планаў?**

– Я даўно ўжо перайшоў на прозу; іншая справа, што нідзе не друкуюць... Таму «самвыдатам» усё гэта раблю. А наогул гэта добрая тэндэнцыя, што людзі пачынаюць друкаваць свае творы. Пераход ад вершаў да прозы – прызнак сталення. Паслухаўшы летась Бартосіка – празаічныя рэчы, якія ён пісаў даўно – прыйшоў да высновы, што празаічныя яго рэчы лепш за яго песні. Песні магчыма больш моцныя, але больш мудрая – яго проза.

**– Іншымі словамі, аўтарская песня, рок-н-рол – гэта ўсё ж дастаткова абмежаваная пэўнымі рамкамі творчасць, каторая не дазваляе аўтару развівацца па-за гэтымі рамкамі?**

– Я гэтага сцвярджаць не буду, паколькі ў гэтым не ўпэўнены. Што тычыцца мяне, то ў мяне гэта адбылося ў 2000 годзе: «Падлодка Курск» лягла на дно. Яна патанула» – усё, гэта была мая апошняя беларуская песня. Больш не пішацца.

**– А прычына? Творчы крызіс?**

– Не магу сказаць адназначна. Магчыма, прычына комплексная. Нехта з класікаў сказаў: любы мастацкі твор павінны сканчацца смерцю. Апошнія песні ў мяне былі змрочнай тэматыкі. Цяпер гэта проза, гэта эсэ, спроба неяк асэнсаваць...

**– Творца і палітыка – гэта сумяшчальныя рэчы, гэта дапушчальна?**

– Палітычная дзейнасць – гэта таксама частка сцэнічнай дзейнасці. Публічная дзейнасць, публічная палітыка – гэта аднязначна для творцы падыходзіць. Але тут рызыкуеш стаць такім вось зіц-палітыкам, цябе будуць выкарыстоўваць як шыльду. Мяне выкарыстоўвалі ў нейкай ступені на мітынгах апазіцыі, калі я спяваў з гітарай. Гэты было да сярэдзіны 97-га году. А потым я стаў напэўна занадта разумным для гэтага, і мяне «адшылі».

**– Твой прагноз будучыні беларускага пісьменства?**

– Нейкі час, можа некалькі гадоў, яшчэ можна будзе жыць па інерцыі, пісаць так, як пісалі раней. Пасля гэтага пісаць так, як пісалі ў XX стагоддзі, стане проста нецікава – чытаць гэта будзе нікому нецікава. Рынак пераможа, і тут яны ўсе адмруць. Літаратура – яна цікавая там, дзе ёсць нейкая творчасць, а не там, дзе дакументы падмяняюцца ці разбаўляюцца белетрыстыкай... Мне больш цікава чытаць дакументы. Такая літаратура дае магчымасць думаць самому.

**– Табе больш цікавая гістарычна-дакументальная літаратура, а не мастацкая проза?**

– Так. Думаю, грамадства наша сталее: тое, што раней чыталі дарослыя людзі, цяпер будуць чытаць школьнікі. Караткевіча будуць чытаць школьнікі, Арлова будуць чытаць школьнікі. У Арлова таксама гісторыя перамешана з белетрыстыкай. Для мяне чытаць гэтых пісьменнікаў (прытым, што я разумею: я да іх узроўню далёка не дацягваю) цяпер малацікава.

**Юрка АРШЫЦА**

# Асэнсаванні

*Гісторык не мусіць пісаць няпраўду, але не павінны баяцца пісаць праўду.*
*Анатоль Франс*

## Як узнік Цэнтр імя Францыска Скарыны І ці стане ён Інстытутам Беларусі

Заканчэнне. Пачатак на стар. 15

– Еду. Справа гонару – ехаць. А што такое?

– Вы паедзеце, а тут такое пачнецца... Прыязджайце хутчэй да нас, мы чакаем.

– Не магу. Не паспяваю. Да цягніка застаюцца дзве з паловай гадзіны. А яшчэ чамадан не сабраны.

– Тады мы за вамі пад'едзем!

Прыязджаю. Накрыты стол. За сталом - шаноўныя сябры нашай рады, але ўсе тыя, хто збоку, не ў Цэнтры працуюць: Анатоль Грыцкевіч, Мікалай Крукоўскі, Іван Саверчанка, Святар гаспадарыць. Усе панура на мяне паглядаюць. Значыць, нешта ведаюць. Але не кажуць, каб не расстройваць перад дарогай.

– Сітуацыя складваецца амаль такая, як з Хрушчовым, калі ён паехаў у Крым адпачываць, – пачынае Любоў Мікалаеўна. – Таму трэба, каб вы, Адам Іосіфавіч, ад'язджаючы, напісалі ліст на імя Стражава, што ў выпадку чаго бачыце мяне дырэктарам Цэнтра. А то прыйдзе, хто трэба...

Я разгубіўся. Сітуацыя ж такая, што ўсё можа быць.

– І сапраўды, – развейвалі мае сумленні калегі, – мала што можа здарыцца. Нейкі выпадак. Пераходзіш трамвайную лінію - і...

– Ну калі вы ўсе так лічыце, – засумняваўся я, гледзячы на гадзіннік.,– тады трэба пад'ехаць у Цэнтр, падрыхтаваць тэкст...

– Нікуды ехаць не трэба, нібы ўсцешыла Любоў Мікалаеўна. – Ліст ужо гатовы. Толькі падпісаць.

Я ўзяў аркуш паперы. Тэкст быў надрукаваны на бланку Цэнтра. Нават нумар, здаецца, меў. А дату – напэўна.

– Але ж тут не мая лексіка, зусім іншая аргументацыя, – запратэставаў я, прачытаўшы тэкст.

– Гэта не мае ніякага значэння. Бо ліст будзе ляжаць тут у сейфе і чакаць вас. Ліст напісаны на горшы выпадак.

Маўклівa пазіралі на мяне мае шаноўныя калегі. А адзін з іх быў нават маім вучнем. Каму ж тады верыць? І я падпісаў. Адмовіўшыся ад стала, хутчэй паімчаў на 38 аўтобус. Да цягніка заставалася крыху больў гадзіны.

У Варшаве, Познані і Гданьску ўсё прайшло добра. Мне не давялося даказваць права беларусаў на «свайго» Міцкевіча, бо гэта прагучала і ў прывітанні прэзідэнта Квасьнеўскага, і ў выступленні міністра культуры. Толькі літоўскі калега застаўся незадаволены маёй трактоўкай радка паэта «О Літво, Ойчызна моя...» Але ж на тое, і спрэчкі, каб прыйсці да паразумення.

Праз дзесяць дзён вярнуўся ў Мінск: спакойна! Толькі Васіль Шаранговіч здзівіўся, калі я прыйшоў на выставу ў музей «На ростанях», на плошчы Якуба Коласа:

– Ты ту-ут?

– А дзе мне быць? - адказаў пытаннем на пытанне.

– Ты ж папрасіў, каб табе далі палітычны прытулак у Польшчы!

– Хто такое казаў?

– Жанчыны казалі.

– Якія?

– Ды пайшла пагалоска...

Пасля чарговай планёркі ў міністэрстве я зайшоў да Любові Мікалаеўны і прыгадаў, што трэба забраць той ліст з сейфа. Бо нічога ж, слава Богу, не здарылася.

– Ліст ужо ў Стражава! – пачуў я ў адказ.

Ну, падумалася, міністр пакліча. Пагаворыць. Але не паклікаў. Бо рашэнне было ўжо прынята, калі я знаходзіўся ў Польшчы. І я крыху разумею Васіля Іванавіча: лепей, калі прытулку папрасіў былы дырэктар Цэнтра, чым здзейны. Тады на прэтэнзіі Галоўнага Ідэолага можна будзе адказаць:

– А ён ужо звольнены.

Праз які месяц адбылося цырыманіяльнае ўступленне Любові Мікалаеўны Уладыкоўскай-Канаплянік, а на пашпарту, здаецца, проста Канаплянік на пасаду дырэктара Цэнтра імя Скарыны. У мяне папрасілі Біблію, тую самую Біблію, якую мы з Каўкам ратавалі ў Сафіі, і на ёй яна дала клятву, што ўсё застанецца на-ранейшаму. Будзе нават лепш. І на нейкі час я паверыў. Бо ў яе, здавалася, ёсць патрэхбная ў наш час рыса: ісці з шабляй на танкі! у мяне такой рысы няма. Я лепей абыду танк, знайду люк і пачакаю каля яго, пакуль хто выйдзе.

Яшчэ два з паловай гады я заставаўся ў Скарынаўскім цэнтры загадчыкам аддзела. Пра гэты час нічога пісаць пакуль не буду, бо пра жанчын, асабліва пераемніц, нібы трэба гаварыць або добрае, або нічога. Скажу толькі, што калі ў інтэр'ю газеце «Звязда» дырэктар сказала, што не месца ў Цэнтры «спекулянтам на нацыянальнай ідэі» і не месца розным там грамадскім арганізацыям, а арганізацыя ж адна: Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, усё, як сказалі мне юрысты, празрыста пазнаецца, я напісаў заяву аб звальненні, пераходзе на пенсію. Бо сапраўды: не ганьбіць жа Цэнтр імя вялікага Скарыны прысутнасцю спекулянта ды яшчэ на вялікай ідэі.

А 6 лютага 2003 г. уся гісторыя, што пачалася з юбілею Міцкевіча, атрымала лагічнае завяршэнне. Міжнародная асацыяцыя беларусістаў атрымала афіцыйны ліст за подпісам дырэктара, што яна, асацыяцыя, не можа прэтэндаваць на памяшканне ў Цэнтры. А паводле нашага заканадаўства гэта значыць, што мы не маем юрыдычнага адрасу, пазбаўляемся права на існаванне. Не пажадала Любоў Мікалаеўна падпісаць з намі пагадненне, падрыхтаванае два з паловай гады назад, паводле якога Цэнтр прадаставіў бы нам пакойчык. Няхай бы хоць адзін з тых, што былі вернуты дзякуючы ўмяшанню Уладзіміра Ярмошына і што цяпер (прынамсі два з іх) здаюцца Цэнтрам у арэнду, а мы ў адказ – безаплатнае права карыстацца нашай маёмасцю – кнігамі, мэбляй (а гэты музейныя сталы, шафы і лавы), ахвяраванымі МАБу карцінамі для музея, ксераксам, факсам, сваціьнікамі.

Ну што ж, кідацца ў паніку мы не маем права. Шэсцьсот з нечым сябраў асацыяцыі, спадзяюся, дапамогуць перажыць гэтую часовую паразу. Даўядзецца шукаць іншае месца. Перанесці туды сваю маёмасць, вярнуўшы яе няхай і праз суд, бо дакументы ёсць.

А Інстытутам Беларусі Цэнтр імя Скарыны раней або пазней стане. Гэтага патрабуюць інтарэсы краіны. Вунь колькі робіць Інстытут Украіны ў Львове, Інстытут латвіі ў Рызе ці Маціца славацкая ў Марціне. Патрэбна толькі «дробязь»: разумна распрацаваць стратэгію, акрэсліць тэматычныя абсягі. І пазбавіцца, як бы тут далікатней сказаць, ад авантурызму ці што. Бо галоўнае ж – праца, «штодзённая шэрая» праца, як спяваецца ў нашым духоўным гімне. А астатняе часцей за ўсё – ад нячысціка.

Новы Час
Галоўны рэдактар
**Алена АНІСІМ**

**Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.**
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
**E-mail: nchas@promedia.by**

Рэдактар нумару **Канстанцін Тарасаў**
Камп'ютэрная вёрстка **Андрэй Дзегцяроў**

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія ЛП № 397 ад 14.03.2001 г.
220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 24. Замова № 280
Падпісана да друку 4.04.2003 (12:00).
Наклад 2200 асобнікаў.
**Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11**